
Целушкі: краса і сэрца → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Пра джаз у Беластоку → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 20 (3288) Год LXIV Беласток, 19 мая 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Свята царкоўнай музыкі

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**XXXVIII Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі», які з 6 па 11 мая адбыўся ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, адзначаўся мастацтвам выканання царкоўных спеваў. У фестывалі прыняло ўдзел многа маладых харыстаў. Сярод публікі ў час конкурсных слуханняў побач людзей сталага ўзросту таксама многа было маладых гайнавян ды айчынных і замежных турыстаў. Козырам сёлетняга фестывалю быў удзел выканаўцаў са шматлікіх краін — Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы, Латвіі, Сербіі, Чарнагорыі, Фінляндыі, Германіі і Казахстана. Шматлікая публіка захаплялася мастацтвам царкоўнай музыкі. Вельмі важнай справай была духоўная ангажаванасць харыстаў падчас спеву. Найбольш замежных выканаўцаў царкоўнай музыкі прыехала з Рэспублікі Беларусь, якія займальна запрэзентаваліся ў час фестывальных слуханняў і занялі пераможныя месцы.**

Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» арганізаваўся з блаславенства мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы і пад ганаровым патранатам прэзідэнта РП Анджэя Дуды. Каля 30 хароў займальна запрэзентавалі багаты рэпертуар царкоўнай музыкі ў гайнаўскім саборы. Частка хароў выступіла ў іншых месцах з царкоўнымі і свецкімі песнапеннямі. Пасля малітваў, якія ў час інаўгурацыі фестывалю ўзначаліў епіскап гайнаўскі Павел, зачытана было пасланне мітрапаліта Савы, які звярнуў увагу на вялікае значэнне фестывалю і падзякаваў прэзідэнту РП за патранат над гайнаўскім мерапрыемствам.

— Царкоўная музыка ў асаблівы спосаб кранае нашу душу, асвячае нашы пачуцці, дае малітоўны настрой... Гэта своеасаблівае Евангелле, якога няма патрэбы ніяк тлумачыць. Таму можам зразумець, чаму ў царкоўнага спеву такое ўздзеянне на ўсю чалавечую натуру. У яго тэрапеўтычнае ўздзеянне, якое аблягчае боль, дапамагае знайсці духоўную раўнавагу і ўводзіць у клімат малітвы, — напісаў у пасланні да ўдзельнікаў фестывалю мітрапаліт Сава.

Фестываль быў урачыста адкрыты ў прысутнасці шматлікіх гасцей. Прывітаў іх дырэктар фестывалю, дэкан гайнаўскай акругі, мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч. Гасцямі фестывалю былі архіепіскап бельскі Грыгорый, епіскап сямятыцкі Варсанофій, праваслаўнае і каталіцкае духавенства, дзяржаўны сакратар канцылярыі прэзідэнта РП міністр Адам Квяткоўскі, пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Чушаў і генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Ала Фёдарава, еўрадэпутат прафесар Караль Карскі, падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі і дэпутаты Сейма РП. На інаўгурацыю фестывалю прыбылі ваяводскія, павятовыя і гмінныя самаўрадаўцы, чыноўнікі Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства а таксама многа іншых асоб.





Другое месца ў катэгорыі прыхадскіх гарадскіх выканаўцаў заняў хор Прыхода святых Кірылы і Мяфодзія ў Ваўкавыску (дырыжор Алена Юзва)

— Прыгожасць царкоўнай музыкі непаўторна адлюстроўвае глыбіню літургіі і містыку Праваслаўнай царквы. У гэтым годзе выступіць трыццаць хароў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Фінляндыі, Расіі, Германіі, Румыніі, Сербіі, Паўночнай Македоніі, Чарнагорыі. Так шырокае прадстаўніцтва выканаўцаў будзе гарантыяй не толькі высокага мастацкага ўзроўню, але таксама непаўторных духоўных перажыванняў, — сказаў дырэктар фестывалю мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч.

Фестываль афіцыйна адкрыў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які звярнуў увагу на вялікае духовае і культурнае значэнне гайнаўскага фестывалю і на незвычайнасць і прыгожасць царкоўнай музыкі. Напомніў ён, што выступ на фестывалі ў Гайнаўцы з'яўляецца вялікім вылучэннем, паколькі толькі частка з тых хароў, якія падаюць заяўкі на фестываль, атрымліваюць запрашэнні прыняць у ім удзел. Падчас інаўгурацыйнага канцэрта займальна запрэзентаваўся мінулагодні лаўрэат узнагароды гран-пры гайнаўскага фестывалю Мітрапаліцкі хор Рускай праваслаўнай царквы ў Рэспубліцы Казахстан з Алма-Аты. Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы ў час інаўгурацыі фестывалю, конкурсных слуханняў і гала-канцэрта запаўнялі любіцелі царкоўнай музыкі з Гайнаўкі і наваколля. Сёлета лаўрэатам узнагароды гран-пры XXXVIII Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» стаў хор Духоўнай акадэміі з Кіева (Украіна) пад кіраўніцтвам архімандрыта Рамана (Падлубняка). Выканаў ён, між іншым, творы з мелодыяй Кіева-Пячэрскай лаўры. Старшыня журы прафесар Уладзімір Валасюк паведаміў, што ў час фестывалю адбылася прэм'ера звыш дзесяці твораў царкоўнай музыкі.

Выступы хароў праходзілі на высокім мастацкім узроўні. Першае месца ў катэгорыі дзіцяча-маладзёжных хароў заняў выканаўца з Беларусі — Дзіцяча-маладзёжны хор «Сустрэча» з Мінска пад кіраўніцтвам Людмілы Літошык. У катэгорыі акадэмічных хароў першае месца заняў Камерны хор «Crescendo» з Крывога Рога на Украіне (дырыжор — Вікторыя Сяргеева). Другое месца ў гэтай катэгорыі заняў Мужчынскі хор Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі. У катэгорыі іншых хароў першае месца

Лаўрэат узнагароды гран-пры хор Духоўнай акадэміі з Кіева

заняў Мужчынскі хор «Logos» з Рыгі (Латвія), якім кіруе айцец Іаан Шэнрок. З ліку вясковых прыхадскіх хароў першае месца заняў хор Прыхода Вазнясення Гасподняга ў Арэшкаве, якім дырыжыруе Эва Сурэль. У катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў на першым месцы апынуўся Фінскі праваслаўны камерны хор з горада Хельсінкі, якім кіруе Ірына Чарвінскі-Матсі.

Конкурсныя слуханні пачаліся з выступленняў вясковых і гарадскіх прыхадскіх хароў. Свецкія хары выступілі пазней. Усе яны запрэзентавалі царкоўную музыку на высокім узроўні і захаплялі разнастайнасцю царкоўных твораў на розных мовах.

— Гайнаўскі фестываль пранік у нашу свядомасць і нам нават складана зараз уявіць сабе веснавы перыяд без слуханняў у саборы царкоўнай музыкі. Царкоўны спеў гэта малітва, якая радуе нас у велікодны перыяд, — сказалі гайнавянкі, якія пастаянна наведваюць міжнароднае мерапрыемства царкоўнай музыкі.

Удзельнікі фестывальных слуханняў пасля выступаў у саборы ездзілі на інтэграцыйныя сустрэчы ў Белавежскую пушчу, дзе маглі паразмаўляць і пасябраваць з членамі іншых хароў.

Публіку фестывалю цікавяць выступы мясцовых хароў. Спадабаўся ім спеў у выкананні вясковых хароў з Арэшкава і Дубіч-Царкоўных (заняў другое месца), з якіх пачаліся конкурсныя слуханні. У катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў удала запрэзентаваліся харысты з Беласточчыны. Жыхары Гайнаўкі асабліва чакалі выступлення харыстаў са свайго горада. Незабыўныя ўражанні выклікаў у іх займальны спеў Дзіцячага хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, якому журы фестывалю прысвоіла другое месца ў катэгорыі дзіцяча-маладзёжных выканаўцаў. Цікава запрэзентаваўся таксама жаночы хор «Васклікнавенне» з Гайнаўкі.

— Хваляваліся мы перад слуханнямі, але зараз мы рады выступу, да якога добра нас падрыхтавала наша дырыжор Юсцінія Марчук, — сказалі дзеткі з гайнаўскага хору, які ўжо раней дабіваўся поспехаў на фестывалі. Дзеткі з Гайнаўкі выступілі з рэпертуарам, які спявалі ў час багаслужбаў.

Прыхадскія харысты ў час фестывалю слухаюць іншых выканаўцаў і такім чынам вучацца новаму ў царкоўнай музыцы.

— Я ў час фестывалю штораз больш адкрываю прыгожасць царкоўнай музыкі і заахвочваю іншых гайнавян прыходзіць у сабор і захапляцца царкоўным спевам, — заявіў гайнавянін.

Найбольш замежных выканаўцаў царкоўнай музыкі прыехала з Рэспублікі Беларусь. Займальна запрэзентаваліся яны ў час фестывальных слуханняў і занялі пераможныя месцы. Апрача хору «Сустрэча» з Мінска, які перамог у ліку дзіцяча-маладзёжных хароў, другое мес-

працяг → 11



# Розніца праблем і агульнасць пагрозы

У кожнай краіны, у кожнай дзяржавы свае праблемы. На мінулым тыдні новага прэзідэнта выбіралі грамадзяне Літвы. Ранейшая кіраўнічка краіны Даля Грыбаўскатэ адбыла свае два законныя тэрміны і можа ўрэшце заняцца асабістым жыццём, а паралельна пры жаданні паслужыць сваёй Айчыне ў іншы спосаб. Змяняльнасць улады — вялікае дасягненне дэмакратыі, пра якую беларусы могуць пакуль толькі марыць. Літва з 1993 года выбірае ўжо пятага прэзідэнта. І не так ужо істотна ў развіцці гэтай дзяржавы, хто будзе абраны новым кіраўніком — эканаміст Гітанас Наўседа ці кандыдатка ад партыі кансерватараў Інгрыда Шыманітэ. Калі хто з іх прывядзе краіну да крызісу, то на наступных выбарах непазбежна будзе пераабраны на іншага, а то і датэрмінова адпраўлены ў адстаўку, як гэта здарылася некалі з Раландасам Паксасам. Грамадзяне Беларусі могуць толькі абліызваць (дзеля) на такі выбар і зайздросціць суседзям.

Украіна ўжо выбрала новага і чарговага прэзідэнта, але ніяк не можа прызначыць дату інаўгурацыі Уладзіміра Зяленскага. Там свае палітычныя супярэчнасці і свае калізіі. Каманда прайграўшага на выбарах прэзідэнта Пятра Парашэнкі наўмысна зацягвае інаўгурацыю, каб не дапусціць датэрміновага роспуску парламента і такім чынам захаваць уплывы. Супярэчнасці нарастаюць, жарсці будуць кіпець, аднак палітычныя працэсы ідуць і ўрэшце раўнавага галін улады будзе ўсталёўвацца. Бо ёсць галоўнае — выбары як механізм змяняльнасці ўлады. Ёсць незалежнасць суда, пракуратуры, вольнасць медый. Хай сабе і шмат што яшчэ пакуль неўрэгуляванае, папсаванае карупцыяй, постсавецкімі звычкамі. Але ж гэта і ёсць хвароба росту, бо ўсё ў развіцці і разнастайнасці.

Арменія падсумавала першыя ўгодкі кіравання Нікола Пашыняна як кіраўніка дзяржавы. „Аксамітная рэвалюцыя” ў гэтай краіне прынесла шмат пазітыўнага. Самае галоўнае, што людзі асэнсавалі той факт, што яны самі адказныя за свой лёс і могуць уплываць на сваю дзяржаву, вырашаць многія пытанні. Важнае ўсведамленне, што ёсць законы, якія рэальна пачынаюць працаваць. Аднак, Арменіі вельмі цяжка рэфармаваць эканоміку, а геапалітычнае яе становішча амаль трагічнае. Наўкола ажно тры варожа настроеныя мусульманскія дзяржавы, у рэальнасці вялікая залежнасць ад Расіі, якая цывілізацыйна ўсё ж бліжэй армянам праз традыцыйную праваслаўную культуру. Аднак пуцінская Расія — гэта зусім не той саюзнік, які можа гарантаваць суверэнітэт і свабоду хоць каму-небудзь.

Расія на чарговыя ўгодкі заканчэння Другой сусветнай вайны на мінулым тыдні зноў захлыналася ад з'явы, якую нехта вельмі трапна акрэсліў словам-наватворам „победобесие”. Фашызацыя расійскага грамадства (працэс трэба называць менавіта так як ёсць!) праз міфы „вялікай перамогі” адбываецца імкліва і вельмі пагрозліва. Мілітарызацыя Расіі, унутраная агрэсія, фармаванне вобразу нібыта варожага Захаду непазбежна выльюцца ў знешнюю экспансію. І тут Украіна, Казахстан, Грузія, Беларусь, краіны Балтыі і нават Польшча знаходзяцца пад найбольшай пагрозай. І тут палітыкам гэтых краін трэба ўсведамляць усю небяспеку вайсковай агрэсіі Масквы. Гэта, пры ўсёй розніцы развіцця і праблем у гэтых краінах, тое агульнае, што павінна яднаць суседзяў Расіі.

У Беларусі сёлета святкаванне 9 мая прайшло крыху менш пампезна і істэрычна, чым звычайна. Кіраўнік мінскага „Чырвонага дому” ўжо выразна разумее ўсю асабістую небяспеку дамінацыі Масквы і росту там памкненняў у кураднымнай эйфарыі чарговы раз „вызваліць Мінск”. На гэты раз яны могуць вызваліць сталіцу Беларусі ад свайго шматгадовага лепшага сябра і партнёра. Інтэграцыйныя гульні так зацягнуліся, што Беларусь, нібыта той бегемот, загразла ў гэтай небяспечнай багне па самыя вушы. Дыхаць усё цяжэй, выбрацца на цвёрды ўстойлівы бераг усё меней шанцаў. Але, як казаў незабыўны літаратурны персанаж барон Мюнхгаўзен: „Мой конь спатыкнуўся і пачаў тапіцца ў балоце. Мне засталося загінуць альбо неяк уратавацца. Як вы думаеце, што я выбраў?!”...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Без эрзацаў

Эрзац, падробка, сурагат, заменнік — усё гэта азначае тое ж самае, як правіла, — адно вялікае г...о. Вось сахарын і маргарын. З гістарычнага пункту гледжання абодва з гэтых прадуктаў з'яўляюцца адказам нямецкай хімічнай прамысловасці на востры недахоп цукру і масла падчас дзвюх сусветных войнаў. Яшчэ сінтэтычны бензін з каменнага вугалю і з цукровых буракоў — мармелад — адразу бачыцца ўся моц нямецкіх інавацый. А хай там. У рэшце рэшт, не толькі немцы маюць спрыт да эрзацаў. Трактуючы сала як дэфіцытнае мяса, беларусы асвоілі самыя разнастайныя тэхналогіі яго апрацоўкі. Так як і расіяне. Не ў заменніках тут справа. Больш важнае ад іх па-філасофску ілжывае стаўленне людзей у цэлым да недахопаў, выкліканых іх уласнай неразважлівасцю. У рэшце рэшт, мір лепшы, чым вайна, масла — чым маргарын... А мяса — ад сала, калі хтосьці яго есць. Гэта відавочнасці, якія людзі да гэтага часу ігнаруюць у сваіх экзістэнцыяльных разліках. Я хацеў бы дадаць, што ў здаровым, практычным, прагматычным сэнсе і, на жаль, нерэальным. Бо мы, як чалавечы род, выбіраем ілюзорнае, гераічнае, ідэалістычнае мышленне. Мабыць таму, што ўжо з дзяцінства, пакаленне за пакаленнем удрукоўваюць у нашу свядомасць канцэпцыю нязменнага лінейнага прагрэсу, у адпаведнасці з якім лепшае наступае пасля горшага. А яшчэ лепшае — па яшчэ лепшым і г.д. Будучы на пастаянным шляху да лепшай будучыні, задавальняемся эрзацамі — чым бы яны не былі, у надзеі, што гэта пераходны, часовы матэрыял прагрэсу. Ці не ад гэтага перакананне выводзіцца памяркоўнасць на апаганены педафіліяй Каталіцкі касцёл? Ці на дрэнную ўладу? Я ўспомніў, як у эпоху таварыша Герэка, кіраванай з цэнтра і на месцах у светлую будучыню Польшчы, усё бубніла пра часовыя праблемы з пастаўкамі прадуктаў харчавання, часовыя збоі ў працы сеткі харчавання, пераходныя сацыяльныя хвалявання... Не казалі, аднак, што сама па сабе эпоха можа быць часовай. Ну, добра, што нарэшце прайшла сама. Але ці да канца? З тых часоў я да сёння памятаю «заменны халвавы блок» без нават аднаго насення кунжуту. Ён быў выраблены ў двух варыянтах: з дадаткам здробненага печыва і змяшанага з вафляй. Апошні мне падабаўся, захапляла ў ім вельмі выразная яго хрумсткасць у салодка-млявай масе. Але я і сёння з'еў бы з задавальненнем тоўсты кавалак гэтага кандытарскага непаразумення. О, сантыменты! І гэта яшчэ адна прычына, чаму ўсе заменнікі настолькі трывалыя. Іншая справа, што некаторыя з іх часам лепшыя ад арыгінальных аналагаў. Напрыклад, украінская... сланечнікавая халва. Нядаўна з'явілася ў нарваўскіх крамах. Проста смаката, рэкамендую! Гэты прыклад паказвае, што не ўсе эрзацы горшыя за арыгіналы. Часам яны становяцца якасцю самі па сабе і ў сваёй арыгінальнай форме. Тое ж самае ставіцца і да вядомага парменскага сыру. Я лічу, што сыр «Царскі» з Гайнаўкі далёка смачнейшы, чым яго арыгінал з Пармы. Справа ў тым, што мясцовы чалавечы геній, які можа выявіцца па-рознаму, часта прападае, не маючы сілы праравацца да цэнтра чалавечай увагі. А што сёння — гэты цэнтр чалавечай увагі? Калісьці быў гэта вядомы чалавек ці меншасць з вялікай уплывовай сілай. За ім ішла шыкоўная мода, патрэба элітнага вылучэння, і, нарэшце, асабістая ацэнка ўласнай каштоўнасці. Не сёння, у эпоху шырокай распаўсюджанасці інтэрнэту, таблоідаў, маральнай пасрэднасці і лёгкасці, з якіх бяруцца плыткае эмацыйнае выказванне меркаванняў і агульны гейт. Не сёння, калі крайне змуціліся такія асноўныя паняцці, як праўда і хлусня, «большасць» і «меншасць». Апошнія страцілі свой колькасны статус. Цікава, што таксама пад пытаннем іх якасны статус. Ці цяперашняя ўлада ў Польшчы з'яўляецца прадстаўніком большасці, ці меншасці грамадзян? Хто з'яўляецца фактычным суверэнам у Польшчы, ці абсалютная большасць з розных палітычных прыхільнасцей, ці меншасны ў параўнанні з большасцю электарат ПіС, які з-за такога, а не іншага выбарчага закону вынес гэтую партыю да ўлады? Можна спрачацца аб палітычнай сістэме, аб ідэалогіі, светапоглядзе, аб уладзе, хто з іх лепшы, больш эфектыўны, больш сумленны, але на самой справе тыя ж спрэчкі застаюцца пустымі, не перакрочваючы парогу цэнтра чалавечай увагі. На жаль, яна якасна і колькасна расцярушаная, так бы мовіць, лішне масавая. Замест інтэлектуальнага дыскурсу маем яго эрзац — грубае гарлапанне. Замест ведання справы — бесталковае пытляванне. Або засяроджанне на альтэрнатыўных тэмах. Давайце не будзем такія самыя. Без эрзацаў.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Сямейны радавод

Чарговы тыдзень на Падляшшы надалей без дажджу. Як бы гэтага было мала, начамі на некалькі дзён завяліся прымаразкі. Для квітнеючай садавіны тэмпература ніжэй нуля гэта проста забойства. Людзі, якія лілі ваду, каб ратаваць дрэўцы ад засухі, пабачылі зараз... падмерзлыя, толькі, што раскрыўшыя сваю прыгажосць веснавыя квітненні. Пачарнелыя і абсыпаныя пялёсткі наводзілі сум на душу. Скрываўленыя сэрцы гаспадароў не даюць ім радавацца веснавой прыгажосцю. У маленькіх і вялікіх цяпліцах усе стараліся прыдбаць дадатковае абаграванне, каб ратаваць перад марозам будучыя плады сваёй працы. Вядома, што кожны гаспадар мае свой спосаб абароны перад такімі жахамі надвор'я. Але як не круці, у такой сітуацыі на Беласточчыне, на жаль, ураджай садоў можа быць мізэрным у параўнанні з мінулагоднім. Тады і цэны могуць прынесці большыя затраты для нашай кішэні.

Пранізлівы, халодны вецер не даваў і раскошы расслабіцца ў сонечным надвор'і. Таму два тыдні святочных дзён памінання нашых продкаў на могілках праходзію не ў доўгім бадзянні паміж магіламі сямейнікаў і знаёмых, але ў як найхутчэйшым чаканні святароў з малітвай над адышоўшымі. Не было доўгіх размоў з доўга нябачанымі аднавяскоўцамі з іншых гарадоў краіны, якія раз на год з'яўляюцца ў гэты перыяд на месца еднасці для ўсіх у праўдзе жыцця.

Але гэта не абазначае, што патрэба памяці зараз згортваецца ў нашым грамадстве. Наадварот, зараз заўважаем у нашай, беларускай грамадскасці штораз большае зацікаўленне пошукамі свайго радаводу да як найдаўнейшых пакаленняў. Мабыць, спрацоўвае тут з аднаго боку ген захавання для будучыні памяці пра адыходзячую нацыю, а з другога боку ўрэшце спеласць нас саміх захаваць для сямейнай будучыні рэальную гісторыю сваіх продкаў. Ну і вядома, не трэба забываць пра вонкавы фактар. Калі нашы суседнія народы ганарацца веданнем свайго радаводу як мінімум да пятага пакалення, то дык чаму нам надалей быць людзьмі без памяці, без роду і племені. Асабліва, што займацца генеалагічнымі пошукамі зараз значна лягчэй, чымсьці яшчэ гадоў дзесяць таму назад. Усё, зразумела, дзякуючы інтэрнэту і даступнасці там матэрыялаў з архіваў усяго свету. Немалаважную ролю ў пошуках радаводаў жыхароў сялянскай, беларускай Беласточчыны з'яўляюцца зараз даступныя ў сеціве парафіяльныя метрыкі з паасобных прыходаў. Усё гэта дае кожнаму аматару сямейнай справы на самым пачатку патрапіць без патрэбы бадзяння па архівах на звесткі пра сваіх продкаў і іхнія гады жыцця. Таксама генеалагічныя праграмы дазваляюць нават у бясплатных іх версіях выбудоўваць без праблемы сямейныя радаводы. Таксама беларускія, украінскія, расійскія архівы з году ў год шырэй адкрываюцца і даюць магчымасць зрабіць больш паспяховымі пошукі звестак пра беларусаў з сённяшняй Польшчы. Таму мяне вельмі асабіста цешыць, што ізноў вельмі важным момантам сямейных ці суседскіх сустрэч і размоў нашай беларускай грамадскасці ёсць размовы пра вынікі пошукаў сваіх каранёў. Са сваёй перспектывы адміраючых, прыпушчанскіх вёсак бачу тое, што памяць пра лёс і мінуўшчыну гэтых людзей запісана ўжо аматарамі для наступных пакаленняў і гісторыі.

Такія пошукі ёсць натуральным, самаабаронным імператывам у хвілінах рознага росту палітычна-канфесійных напружанняў у акружаючым свеце. Знаходзіць сваё месца ў гістарычнай спадчыне гэта ўзмацняць свой нацыянальна-рэлігійны імунітэт. Менавіта да гэтага заклікаў некалькі дзясяткаў гадоў таму назад Уладзімір Арлоў у сваім знакамітым творы «Мой радавод да пятага пакалення». Дарэчы, актуальнасць ягонага закліку ў сённяшнім свеце абсалютна не ўстарэла. Памятайма таксама пра звычайную, жыццёвую праўду, якую любіў пры кожнай нагодзе паўтараць Сакрат Яновіч, што бедным і галодным не да галавы займацца нацыянальнай гісторыяй ці родавай спадчынай. Таму цяпер, будучы сытымі і адкормленымі, маем шанц яе не праспаць і не праесці. Лепш усё запісаць.

Яўген ВАПА

# Целушкі: краса і сэрца



Злева: Марцін Франц, Хрыстаф Лейднер, Гражына Харытанюк-Міхей

У вёску Целушкі апошні дзень красавіка гналіся як на крылах ветру не толькі мы на сваіх дваіх ад Рыбал. Добрых дзевяць кіламетраў, калі б не малітва да Багародзіцы. У Вікіпедыі выдумляюць, што назва гэтае вёскі Заблудаўскай гміны Беластоцкага павета паходзіць ад паганскага *цяльца*, які быццам быў «абагатвараны ў Целушках яшчэ перад прыняццем усходняга хрысціянства» (папярэдняя назва вёскі гэта «Свяціцеле». Узніклы перад XV стагоддзем санктуарый у Пухлах меў аслабіць моцны паганскі культ у Целушках. Канчаткова айчынны культ Цяльца прапаў, а блізкая вёска Пухлы да сёння важны цэнтр праваслаўнага марыйнага культу для навакольнага насельніцтва» (за а. Рыгорам Сасной). У Целушках існавала прыхадская царква, якой існаванне пацвярджаюць захаваныя да сёння люстрацыі з 1576 і 1664 г. Аднак па прычыне недахопу крыніц невядомая дата яе ліквідацыі. Гэты храм быў парафіяльным цэнтрам не толькі для Целушок, але і для блізкай вёскі Паўлы. Адзіным астаткам, які захаваўся па ёй да сёння, з'яўляецца рудымент парафіяльнага могільніка ў выглядзе надмагільнага каменя, завершанага каваным крыжам з транскрыпцыямі і датай 1735 г., які знаходзіцца за адным домам у цэнтры вёскі. У міжваенны час вялікай папулярнасцю ў вёсцы карыстаўся рэлігійны рух прарока Ільі (Клімовіча са Старой Грыбоўшчыны), тут існаваў нават храм, які належаў да гэтай рэлігійнай групы.

У вёсцы захавалася традыцыйная драўляная архітэктура жылых будынкаў. Большасць з іх паходзіць з міжваеннага перыяду. Целушкі — пры Сацах, Трасцянцы, Канюках, Рыбалах і Войшках — адна з нешматлікіх вёсак у Польшчы, дзе можна пазахапляцца народнымі арнаментамі хат, выступаючымі ў выглядзе аканіц, над- і падаконнікаў, аздобнымі шалёўкамі і драўлянымі шчытамі. Праз вёску праходзяць турыстычныя шляхі — Падляшскі бусловы шлях і Падляшскі культурны шлях «Дрэва і *сакрум*».

Адчуваецца подых абагатворанай вечна аднаўляючайся прыроды, бачыцца крыж з зоркай і іншыя паклонныя крыжы і сімвалы, з вялікай пашанай і дбайнасцю да якіх ставіцца жыхары Целушок, якія яшчэ ў перапісе 1921 года ўсе запісаліся беларусамі. З бежанства 1915 года, выгнаныя ў глыб Расіі, правезлі гэту красу, што свеціцца на дамах, прывезлі адкрытасць і зацікаўленне басяцкімі хрысціянскімі верамі, верай у справядлівасць і дабро. Відаць шчырасць, шчодрасць і дабрыню сэрцаў, з якімі вітаюць гасцей. Таксама «нетутэйшых», якія селяцца над Нарвай, і турыстаў, якія не абмінаюць Целушок. Адна з новых жыхарак падвезла нас па гэтай некароткай дарозе: «аж да хаты **нашай Гражыны** давязу!» Доктар Гражына Харытанюк-Міхей — солтыска, якая жыве ў бабулінай хаце і не першае мерапрыемства ладзіць для аднавяскоўцаў, а ў аднаўленай школе — у другі раз. Зараз і наступнае будзе. Уся вёска, аб'яднаная гэтай няўрымслівай і адначасова лагоднай і ўдумлівай маладой асобай, кідаецца з радасцю да ажыццяўлення яе задум і аддае свой час, умеласці і сэрца для новага жыцця гэтай старадаўняй падляшскай вёскі. Ёсць заўсёды і для духа, і для цела. Так як сёння — на фотавыстаўцы нямецкага фатографа Марціна Франца. А на шоу — іначай гэтага не назавеш — прыбылі госці з цэлай аколіцы — з Трасцянкі, Сацоў, Гайнаўкі, Беластока ды ўсяе краіны.

«Besuch in Ciełuszki» (Візіт у Целушках) — такі просты загаловак даў сваёй выставе Марцін Франц. Каталог і каляндар выдала Нямецка-Польскае таварыства ў Гамбургу. Рэдагаваў сябра і перакладчык Хрыстаф Лейднер.

— Наша вёска Целушкі — адна з найпрыгажэйшых вёсак Заблудаўскай гміны, — сцвярджае солтыска Гражына. — Яна ціхая, спакойная, прытульная. Зімою замірае, а вясной ажывае нанава. Прыцягвае шмат каго, дзякуючы захаванай архітэктуры і незвычайнай прыродзе, дзякуючы распалажэнню ў Даліне Верхняй Нарвы.



Яна ахоплена абшарам «Натура-2000». Нашы жыхары ад пакаленняў займаюцца земляробствам, падпарадкоўваючыся правам натуры. Згодна з цыклам прыроды салідна выконваць сваю працу. Гэта вельмі працавітыя, добры гаспадары, сумленныя, сардэчныя, адкрытыя. Гэта яны з пакалення ў пакаленне перадаюць свае веды, жыццёвую мудрасць, традыцыю і праваслаўную веру. Гэта дзякуючы ім некаторыя з нас рашыліся вярнуцца ўжо ў адмененую вёску. Самае важнае, што нашы родныя гнёзды год у год запаўняюцца. Адным з тых, каго захапіла наша вёска, з'яўляецца Марцін Франц. Гэта ён прафесійна і з вялікай павагай паставіўся да нашых краявідаў і людзей. Рашыў ён у выглядзе фотаздымкаў увекавечыць нашу непаўторную прыроду і жыхароў у іх штодзённым жыцці. Карціны, затрыманыя ў кадры, з'яўляюцца арыгінальнай хронікай нашай мясцовасці. Удалося злавіць у кадр тое, што неўзабаве кончыцца. Прадставіў ён свету нашу малую Айчыну — тую невялікую кропачку на карце вялікай Еўропы. Вельмі дзякуем Марціну Францу за заангажаванне ў нашу справу. Яго пасія прычынілася да таго, што ўзнікла выстава здымкаў «Візіт у Целушках», на маю думку ўнікальная. Дзякуем таксама Хрыстафу Лейднеру за сумленнае супрацоўніцтва пры арганізацыі гэтага мерапрыемства.

— Я першы раз прыехаў у Целушкі восенню 2016 года, — расказвае Марцін Франц. — Я захапіўся вулічнай вёскай з добра захаванымі драўлянымі дамамі, жыццём на вуліцы і ў гаспадарках. Вельмі ветлівыя жыхары дазвалялі мне рабіць здымкі, хаця я не размаўляў па-польску, а яны — па-нямецку. Азіраючыся за вёску, я зрокам ахапляў шырокую даліну рэчкі Нарвы з разлеглымі поймавымі зонамі багонных лугоў, трыснягамі і шматлікімі прытокамі ракі. У час чарговых фатаграфічных паходаў у 2017 і 2018 гадах завітаў я таксама ў іншыя вёскі рэгіёна, у тым ліку над раку Нарву на адрэзку ад Адрынок да Візны. У той час я часта вяртаўся ў Целушкі. У маіх падарожжах не цікавіць мяне сучасная інфраструктура ані прамысловая сельская гаспадарка, якая ўзнікае і ў гэтым рэгіёне. Хапае мне гэтага ў Мюнстэрландзе (у Паўночнай Рэйн-Вестфаліі ў Нямеччыне), бачу, як там шырокамаштабная мадэрнізацыя знішчае жыццёвую прастору дзікіх звяроў, птушак, насякомых, кветак. Над Нарвай ніякая грэбля не абмяжоўвае плыні ракі. Ёсць тут шматлікія старыцы і лугі, якія дастасаваліся да рытму заліваў. На малых палетках і ў вялікіх агародах вырошчваецца агародніна ў традыцыйны спосаб, які ў нас прапаў дзесяцігоддзі таму. Шукаючы матываў, якія ілюструюць традыцыйны спосаб жыцця, знайшоў іх я якраз тут. Такіх драўляных дамоў нідзе ўжо не знойдзеш. Падчас маіх пабывак у Целушках узнікла серыя здымкаў аб жыцці гэтай вёскі ў 2016-2018 гадах. Але і тут час не стаіць на месцы і вёска з ваколіцай таксама змяняюцца. Такім чынам здымкі становяцца маім малым укладам у калектыўную памяць Цялушак. Вельмі дзякую солтыс Гражыне, што пераняла ініцыятыву і дала мне нагоду паказаць здымкі якраз там, дзе я найбольш люблю фатаграфаваць. Выстава сарганізавана пры падтрымцы Заблудаўскай гміны, Польска-Нямецкага таварыства ў Гамбургу і суфінансаванні Фонду польска-нямецкага супрацоўніцтва — ім таксама вельмі дзякую.

Марцін Франц, народжаны ў 1948 г., доктар біялагічных навук. У час сваіх біялагічных даследаванняў прымяняў электроны мікраскоп для фатаграфавання вельмі малых трапічных паразітаў. У вольным часе працуе фатографам прыроды. Робіць пейзажныя здымкі са шматлікімі дэталямі, якія публікуе ў календарах і на выставах. Ад 2000 г. ездзіць малым кемпінгавым бусам. Штогод наведвае Польшчу, Нарвегію. У 2010 г. Марцін Франц перайшоў з аналагавай тэхнікі на лічбавую. Плануе чарговы праект, тым разам пра Нарву.

Апісвае здымкі: *Прыток Нарвы з Целушкамі на другі плане, асенні вечар*. Здымак выкананы 30.10.2016 г., гадзіна 17.30. *Ліпа пры паўднёвым уваходзе ў вёску*. Здымак выкананы 25.5.2018 г. *Коні і старая стайня*. Здымак выкананы 11.11.2016 г. *Выконваючы аздобы драўляных дамоў Ян Шаркель*. Здымак выкананы 16.5.2018 г. *Баранаванне канём*. Здымак выкананы 26.5.2018 г. *У агародчыку*. Здымак выкананы 31.5.2018 г. *Касьба ў прысутнасці буслоў*. Здымак выкананы 31.5.2018 г. *Студня і дом № 96*. Здымак выкананы 11.1.2016.

Поўнасцю набітая публікай аднаўленая прыгожая зала былой целушкаўскай школы бурна ўспрыняла выказванні аўтара і арганізатараў выставы, песенна-сатырычны славянскі шоу калектыву «Рэчанька» з Козлікаў, а ў час вельмі багатага прыёму, падрыхтаванага сіламі ўсёй вёскі, спевы і ігру на трамбоне турыстаў з Познані, што прыехалі з аграгаспадаркі Тамары Ляшчынскай з Сацоў. Старажытныя песні спявала таксама Іаанна Чабан, якая стварыла пры нагодзе ў Целушках новае трыо.

— Ой, як добра, што наша Гражына так нас аб'яднала і арганізуе такія сустрэчы, — сказала пані Марыя. — У мяне была вялікая дружына, але ўсе параз'язджаліся, і я асталася адна ў хаце. А так — не адчуваю самоты.

— О, вось, бачыце — збіраем у школе і навейшыя «старажытнасці». Вось красуецца на сцяне табліца з дажынак. А была ўжо на сметніцы, — паказвае прыгожы барэльеф пані Эля. Яна тут нядаўна жыве, але для яе няма лепшага месца для жыцця як Целушкі.

Шукала я па вёсцы дом пані Зосі Лук'янюк, помнік найлепш захаванай драўлянай архітэктуры, узнагароджаны ў ваяводскім конкурсе. А тут амаль кожную хату можна пацеміць гэтай ганаровай таблічкай. І прыгадаўся мне верш, у якім цётка Зося ўспамінала пра сваю выхаванку-цялушачку. Ці не гэтая сімпатычная жывінка — сімвалічная для Целушок, а не нейкі «цялец», які мае тлумачыць яе старадаўнюю назву?

## Цяля з Цялушак

У Цялушках у цёткі Зосі
Цялятка прывяла пад восень
Рабая карова, што завуць яе Муня.
І тое цялятка ў Цялушках пад клуняй,

Пад хатай і ў краму за цёткай так ходзіць,
Дый без вяроўкі — бы яго водзіць
Як таго цюцьку яго гаспадыня.
Цялятка ў Цялушках ніхто і не спыніць:

Яно цёцю Зосю як маму кахае
І за спадніцу пыскай хапае!
Паілі з бутэлькі малое цялятка,
Праз соску смактала яно «вымя» маткі,

І, хоць ужо стала вялікай цялушкай,
Хоча на ручкі... каб яе гушкаць!
Вырасла песта ўжо — амаль матка.
Такая жывінка — з Цялушак цялятка!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Сябры застаюцца сябрамі

Цяжка дажываць старасці адзінокаму чалавеку ў самоце. Яшчэ чатыры гады таму не прапускаў я ніводнай імпрэзы ў Чаромсе, ды не толькі, каб сустрэцца з сябрамі і падзяліцца навінкамі. Маёй схільнасцю да сустрэч з людзьмі была цяга карэспандэнта да пошукаў субяседнікаў для размовы пра мінулыя будні ды сучасную будучыню ў гадах трансфармацыі. Маю на ўвазе музычныя імпрэзы (фальквыя сустрэчы «З вясковага панадворка», фэсты Беларускага таварыства і Гайнаўскага беларускага музея з цыкла «І тут жывуць людзі»), таксама шпіталізацыю ў Гайнаўскай бальніцы, ці белавежскім «Ракітніку» на турыстычна-рэабілітацыйнай змене. Дзякуючы ветлівасці арганізатараў, карыстаўся я запрашэннямі на юбілейныя святкаванні народных калектываў у Дабрывадзе і Чаромсе-Вёсцы, «Каліна» ў Дашах і «Вішанькі-чарэшанькі» ў Сухавольцах. Дзясяткі сустрэч, тэкстаў і здымкаў. Зараз мне гэтага не хапае. Таму цешуся, калі наведаюць мяне сябры ў шпіталі на Рэабілітацыйным аддзяленні. 24 красавіка зрабіў мне сюрпрыз Міхась Андрасюк. Не менш прыемным быў яго падарунак — апошняя кніжка «Поўня» са смачнымі пажыўнымі фруктамі і такім жа напіткам. А ў прысвячэнні напісаў так: «Уладзіміру Сідаруку з пажаданнямі вяртання да здароўя. — Міхась Андрасюк — Гайнаўка, 24.04.2019». З Міхалам Андрасюком я ўпершыню спаткаўся ў Гайнаўскім аддзяленні Беларускага таварыства, калі працаваў Міхал Голуб. Тады мы мелі рашаць праблему пашырэння кола карэспандэнтаў «Нівы» на Гайнаўшчыне. З таго, што прыпамінаю не прыехалі на сустрэчу Мікалай Панфілюк з Дубіч-Царкоўных і Пятро Байко з Белавежы. Затым размова адбылася ў абмежаваным складзе. Нічога мы тады асаблівага ў справе карэспандэнтаў не прыдумалі. Адно толькі, што знаёмства з Міхасём Андрасюком доўжыцца па сённяшні дзень. На жаль, наш сябра Міхал Голуб пакінуў нас заўчасна і адышоў у вечны спачын. Няхай Яму Зямелька-Маці пухам будзе. Не забываюць мяне таксама іншых калег. Часта наведвае мяне ў шпіталі Алёша Бялеўскі з Гайнаўкі, Сцяпан Каляда з Бельска-Падляшскага. Па тэлефоне абменьваемся навінкамі з Валодзем Данілюком з Малінікаў, ніўскім пенсіянерам Віталём Лубам. Праўда, не парываю кантактаў з ніўскімі журналістамі, а таксама з сябрам Мікалаем Ваўранюком, журналістам Радыё Рацыя. З гэтымі апошнімі ў мяне асаблівыя суадносіны, якія доўжацца гадамі. І ад іх па сённяшні дзень застаюцца ў памяці найлепшыя ўспаміны.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Сцёртыя белыя палосы

Зараз надвор'е цяплее з кожным днём. Можна аднаўляць сцёртыя белыя палосы, г. зв. зебры на асфальтавых маставых дарог і вуліц, між іншым, у Гайнаўцы, але дарожныя службы яшчэ не прыступілі да такіх прац. Сцёртыя палосы амаль на кожнай гайнаўскай вуліцы, а ўжо асабліва ў цэнтры горада, між іншым, на вуліцы 3 Мая, Баторыя, Пілсудскага, Беластоцкай, а. Антонія Дзевятоўскага. Няйначай выглядае справа гэтых гарызантальных дарожных знакаў на вуліцах у вёсках Гайнаўскага павета.

Палосы, асабліва на рухлівых вуліцах, неабходна намаляваць. Перш-наперш там, дзе жыхары горада ці вёсак часта пераходзяць вуліцу з аднаго боку на другі. Сціраюць іх пакрышкамі грузавыя аўтамабілі і аўтобусы ды і легкавушкі таксама.

Добра бачныя белыя палосы на вуліцах патрэбны для таго, каб пешаходам было больш бяспечна рухацца па вуліцах. Час і пара тады дарожным службам прыступіць да аднаўлення сцёртых белых палос асабліва там, дзе яны мала прыкметныя.

(яц)

# У ПНР было весялей і ўсе былі больш дружныя

## Размова з **Уладзімірам ШЫМАНСКІМ**, пенсіянерам з Орлі 1941 года нараджэння.

**— Ці Вы запамяталі сваіх дзядоў?**

— Дзеда Рыгора з боку бацькі не помню. Пасля бежанства, недзе з Самары, бацька майго бацькі хутка памёр, а пасля і маці, і бацька, 1910 года нараджэння, ва ўзросце сямі гадоў астаўся круглым сіратою. У Орлі тады панавалі голад і тыф. Хадзілі ў Спічкі прасіць, то давалі лупіны ад бульбы. Дамы хрысціян у Орлі былі ў большасці спалены, апрача тых, што не выязджалі ды той канец мясцовасці ад Рудутаў. Дзедкавай хаты не было, жылі ў старых Несцяровічаў, а пасля бацька жыў дзе Сёмка Здановіч. Сёмка быў яго адзінаўтробным братам — па іншым бацьку. Была там баба Ладуныха, а калі яна памерла, то мой бацька астаўся сам і пасвіў кароў у жыдоў. Калі Сёмка вярнуўся з войска, то жылі разам. Пасля бацька ажаніўся.



Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

Дзяды з боку мамы Анны — Юлія і Дзмітры Русіновічы. Дзедка расказваў, што ў бежанстве спачатку было вельмі добра, прынялі бежанцаў, была праца. А калі ўспыхнула рэвалюцыя, то ўсё папалілі — запасы, стагі... Казалі: „старое раззброім, новае пастроім". Настаў голад і бежанцы пачалі ўцякаць. Прыехалі ў Орлю, а тут другі голад. З Орлі ў бежанства не выязджалі дзед Купталя — Сцёпка Ляшэвіч і яшчэ хтосьці. Яны поля не абраблялі, толькі агароды ў Орлі аралі.

**— Як успамінаеце сваё дзяцінства?**

— У нашай сям'і было пяць хлопцаў: Ваня з 1936 года, Коля — 1937, Сцёпа — 1939, я — 1941, Саша — 1943 і дзве дзяўчыны: Валя з 1946 і Тоня з 1948 года. Спачатку была нянька Жэня Русіновіч, па мужу Пасечнік, а пасля адзін аднаго даглядалі. Было прадшколле, але не для дзяцей земляробаў. Але перад самой школай кожны хадзіў у прадшколле — такое па некалькі гадзін.

**— Школа?**

— У 1948 годзе пайшоў я ў школу. У Орлі было многа дзяцей, з майго рочніка 14 хлапцоў і столькі ж дзяўчат. У адным класе было за сорак вучняў. Вучыліся ў „вялікай" школе, дзе зараз касцёл. Вучылі: з Бельска Федарук (быў загадчыкам) і яго жонка, пасля настаў Васіль Лашкевіч (яшчэ пры санацыі ён вучыў майго бацьку) і яго жонка Барбара, Мікалай Нестэровіч, пазней Мікалай Ляшчынскі і яго жонка, беларускай мове навучала Тацццяна Агіевіч. З пятага класа быў прадмет руская мова. У першым класе вучылі па-беларуску, а ў другім ужо па-польску. Быў яшчэ настаўнік Паскробка, быў суровы, хадзіў з палкай. Пасля вайны ў школу хадзіла многа кавалераў і мешаныя рочнікі. Быў абавязак навучання, клікалі бацькоў.

**— Ці дзеці дапамагалі бацькам? Як тады дзеці гулялі?**

— У час канікул старэйшыя дзеці пасвілі статкі авечак і кароў, малодшыя дзеці пасвілі свіней. Пасвілі свіней і ўвесь час у рацэ сядзелі — лавілі ракаў. Палілі вогнішча і пяклі ракаў над агнём. Лавілі рукамі рыбу, а рыбы было поўна ў аерах. Альшанкі лавілі кошыкам, многа іх было. Пасля пажару Рудутаў людзі адбудоўваліся, гасілі вапну і атруцілі раку. Прапала рыба, прапалі ракі.

А пазней, ужо старэйшымі, пасвілі коней. Конь есць, а ты нагу закінеш на шыю і ўжо наверсе сядзіш, або, калі добра конь кіне, то і пад хвост ляціш. Мелі фантазію.

**— Напэўна заглядалі і ў сінагогу. Маладыя былі таксама схільныя да фокусаў у той час?**

— Сінагога была адкрытая. Мы хадзілі туды лавіць дзікіх галубоў. Калі заснавалі ГС, то там зрабілі склад фертылізатараў, а салому і сена трымаў там сабе прэзас ГСу. Мішка Тхарэўскі трымаў там сваё збожжа.

Наловім галубоў, то калі дзе было вяселле, то ўкідалі іх цераз адкрытае акно ў хату, дзеля жартаў; або вераб'ёў. Таксама камусьці адкрыем дзверы і ўпусцім. Рабілі яшчэ г.зв. жорны — шаравалі камянямі па сцяне хаты, а гаспадар ганяў нас па цэлай Орлі. На Новы год здымалі форткі, дарогі пасыпалі попелам. Або раскідалі прызбу і рассыпалі па дарозе. За гэта каралі, бо і нагавіцы брудзілі попелам, і некаторыя даставалі лупцоўку ад бацькоў. А калі снег прыкрываў высыпаную дарожку, тады ішлі і адгортвалі яе нагамі, каб відаць было. Таксама ляпілі гвязды, а пасля хадзілі калядаваць.

**— Як у той час людзі ставіліся да вядомага месца „пад зялёным дубам"?**

— Гаварылі, што там страшыць — дзе г.зв. „чортавы вароты" — разгалінаванне дарог з Орлі ў Рудуты і Дубічы-Царкоўныя каля г.зв. „зялёнага дуба". Казалі, што калі едзеш, то конь распражэцца. Так гаварылі, цэлы час страшылі. На дарозе ў той час быў пясок і балота. Брук быў толькі ад Орлі да мастка. Расказвалі таксама, што калісь-калісь была там, каля „зялёнага дуба" нейкая карчма. Бо калі ехалі, то заязджалі ў карчму. Там была горка, то мы, дзеці, з'язджалі з яе на санях. Бралі конныя сані, уцягвалі на горку, сядалі і з'язджалі. Там далей пасля рабочыя бралі пясок у бетанярню.

**— Як выглядала Ваша адукацыя пасля падставоўкі?**

— Пасля падставоўкі астаўся на сваёй гаспадарцы; тады ў Орлі яшчэ не было Школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Мой бацька працаваў у кафлярні. Дырэктарамі кафлярні былі: Смактуновіч, Гродзкі — ён таксама разбудаваў цагельню Антанова, потым было двух з Беластока, жылі дзе пасля Клычко, знеслі будынкі старой Вайнштэнавай кафлярні, Люшка Агіевіч — коратка, Ян Сакалоўскі, Пётр Байко, Сакалоўскі... Загадчыкам цагельні быў Люшка Сакалоўскі.

Пры дырэктары Гродзкім пачалася пабудова бетанярні. Спачатку была яна разам з кафляряй, пасля раздзялілі, а кіраўніком быў Павел Лемеш з Кашалёў. Пры вуліцы Свярчэўскага была тады Міжгуртковая машынная база.

**— Войска?**

— Не бралі, бо быў на гаспадарцы, а пасля, вясной 1963 года ўзялі ў Варшаву ў ахову аэрадрома. Давозілі нас на вайсковы аэрадром. У самалёце я не сядзеў і не хацеў. Ахоўвалі таксама вайсковы аб'ект каля Пясэчна.

**— А як было тады ў войску; ці цяжка было маладым салдатам?**

— Спачатку не было лёгка. Кватаравалі нас у палатках да 1 студзеня, бо не было месца. Ад марозу палаткі ўсярэдзіне былі белыя. То кламіся ў ложак па двaіх і тады мелі ўжо чатыры пледы і два прасцірадлы прыкрыцца. Адзенне — кальсоны і кашуля, а ўдзень пінжак і пантарка. Выхадная вопратка была ў шафах. Боты былі старыя, ношаныя ды анучы, а шкарпэткі на выхад. Правяралі, ці ўсё чыстае. Вада была толькі халодная. На ўзбраенні былі „калашнікавы", „пэмы", „эркаэмы"; на варту бралі „пэмы". Я пасля страляння атрымаў „эркаэм" і трэба было яго папавалачыць.

Кожную суботу сеннікі з саломай і пледы выносілі ў панадворак. Падушка таксама была з саломай, часам давозілі салому, каб папоўніць. Ложкі былі трох'ярусныя. Сорак асоб у зале і адна печка. Жолд для радавога 51 злот, на крэм для абутку, зубную пасту, гальцы (жылеткі).

**— А як адносіліся кадравыя да партыйных салдат?**

— Партыйныя мелі лепш, іх больш паважалі, для варты давалі лепшыя месцы.

**— Ці ў войску сустрэлі землякоў? Ці размаўлялі па-свойму?**

— Было нас 12 праваслаўных: з Бельска, Чахоў-Арлянскіх, Тапароў, Пашкоўшчыны, Гародчына... Па-свойму не размаўлялі, бо тыя „мазуры" з-пад Ломжы і так здагадваліся...

**— Водпускі? Бралі Вас у запас?**

— Водпуск у першым годзе сем дзён, у другім дзесяць. Адзін раз узялі ў запас, у Беласток, на Зялёну, на 20 дзён.

**— Пасля войска?**

— Пасля войска ў 1965 годзе да зімы сезонна працаваў у цагельні Антанова каля Орлі; там крыху працаваў і перад войскам. У 1965 годзе ў Орлі пры вуліцы Ажэшкі сталі будаваць эскаэр, спярша будавалі майстэрню, цэх і агароджу пляца. То я там зімою з Пятроўскім працаваў пры пабудове агароджы.

А пасля пайшоў на працу ў бетанярню. Рабілі пустакі, трылінку, а пазней працаваў я на бульдозеры. Калі не стала хапаць рабочых, то бралі на працу жанчын. У бетанярні працаваў да пяцідзесятага года жыцця і пайшоў на рэнту па нездароўі. Плаціў таксама сельскагаспадарчыя складчыны ў КРУС, былі абавязковыя. Але сельскай пенсіі тады не давалі. Паколькі я плаціў складчыны ў КРУС, то не хацелі даць мне пенсіі з ЗУС; адтуль адсылалі ў КРУС. То тры разы судзіўся і атрымаў з ЗУС.

**— Ваша дарослае жыццё?**

— У 1967 годзе, неўзабаве пасля войска, ажаніўся з дзяўчынай з Кашалёў, Любай. У нас два сыны, жывуць у цэнтры краіны. У Кашалях жылі паўтара года. У 1967 годзе сталі стаўляць дом у Орлі, дзе і зараз жывем.

**— Якое, паводле Вас, было жыццё ў ПНР? Вы таксама пажарнік...**

— Мне ў ПНР жылося лепш. Бо было весела, усе былі дружныя, збіраліся хлопцы і дзяўчаты. Былі забавы, патанцоўкі. Не раз хадзілі на патанцоўкі ў Кашалі. Было весялей. На вячоркі хадзілі ў Кашалі. Бывала, сядзяць на лавачках, спяваюць. Але ў Орлі моладзь так не спявала, не ведаю чаму. Хадзілі ў дом культуры...

У школе ладзілі акадэміі, шэсці. Людзі арганізавалі грамадскія пачыны, рабілі дарогі, парк абсадзілі рознымі дрэвамі. Пажарнае дэпо ў Орлі пабудавалі грамадскім чынам. Калі адыходзіў у войска ў 1963 годзе, то быў пабудаваны зруб, а калі ў 1965 годзе вярнуўся, то ўжо было пад дахам.

Было весялей і нармальна. Людзі размаўлялі з сабою — выйдуць на вуліцу і гутараць пра жніво. А сёння толькі коса на сябе глядзяць. А зараз тэлевізар. Усё гэта нарабіла тэлевізія; сёння нічога няма.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Джаз – рэвалюцыя ў Беластоку

**Пра поспехі славутых беластачан-палякаў напісаны кнігі, значна менш ведаем аб новапрыбыўшых, якія ўнеслі свой уклад у культуру нашага горада. Дзяржаўны джаз-аркестр створаны ў Беластоку ў часы БССР быў складзены з яўрэяў, літвакоў, уцекачоў з суседніх краін і людзей, якія ў Беласток трапілі выпадкова. «Менавіта яны пісалі гісторыю польскага, але і беларускага джаза, таму што яны таксама сталі часткай беларускай культуры і без іх не адбылося б тое, што адбылося» – лічыць Віктар Сямашка.**






## Беластоцкі аркестр, еўрапейскі кантэкст

Як беларускі джаз нарадзіўся ў Беластоку? — менавіта пра гэта ў чацвер 9 траўня размаўлялі ў беластоцкім „Склепе з культурай", аб'яднання АБ-БА. Госцем сустрэчы з цыкла „Пагаворым пра..." быў музыка, паэт і журналіст з Менска Віктар Сямашка, які распавёў пра пачатак, занепад і сучасны стан беларускага джаза.

— Цяжка сказаць, што канкрэтна нарадзілася ў Беластоку, таму што ўсе музыкі, якія тут апынуліся, мелі ўжо вялікі багаж сваіх твораў, ужо прыехалі з нотамі, — тлумачыў Віктар Сямашка. — Эдзі Рознер гаварыў, што ўсе яго ноты ў галаве, ён выдатна іх памятаў. Што тычыцца матэрыялу з беларускім каларытам, то, на жаль, застаўся незафіксаваны. Калі аркестр апынуўся ў прафесійнай студыі ў 1944 годзе, яна проста запісала той матэрыял, які выконвала цягам Другой сусветнай вайны, гастралюючы па франтах. Спецыфічны гэта матэрыял — трэба было граць нешта лёгкае, вясёлае, каб крыху павесяліць стомленых салдат. Там нешта беларускае цяжка сустрэць. Затое ў апошнія гады свайго існавання кампазітары пачалі пісаць для аркестра такія падкрэсленыя нацыянальныя творы. Былі пафасныя гімны ў гонар Беларусі, былі апрацоўкі народных мелодый; што цікава, гэтыя творы таксама пісалі кампазітары-габрэі. З шырокага постмадэрнісцкага пункту гледжання гэтая тэма вартая асвятлення, таму што надзвычай захапляльная, і столькі гісторый, столькі імён, столькі ўзаемасувязей. І тут яднаюцца не толькі Беларусь і Польшча, а ўвогуле ўтвараецца такі агульнаеўрапейскі кантэкст.

## Белы Армстранг у Беластоку

Заснавальнікам Дзяржаўнага джаз-аркестра ў Беластоку лічыцца Эдзі Рознер. Сярод найбольш папулярных кампазіцый таго піянера еўрапейскага джаза быў твор «Парень, паренёк», вядомы пасля вайны ў Польшчы з тэкстам Ежы Людвіка Керна пад загалоўкам «Cicha woda».

Рознер нарадзіўся ў Берліне, аднак пасля прыходу да ўлады нацыстаў, так як большасць музыкаў з-за страху за сваё жыццё з'ехаў, каб пасля 1939 года апынуцца ў Беластоку. Віктар Сямашка расказаў гісторыю пра сустрэчу Рознера з Армстрангам. Вось Эдзі Рознер падчас турнэ па Італіі сустрэў Луі Армстранга, бясспрэчнага караля трубы. Трубачы адбылі музычную дуэль. Перамог Армстранг, але ў знак прызнання Луі ўручыў Рознеру фатаграфію з надпісам «беламу Луі Армстрангу». Тады Рознер падарыў яму сваё фота з допісам «чорнаму Эдзі Рознеру». Пра лёс Эдзі Рознера больш чаго можна даведацца з фільма «Джазмен з ГУЛАГа». Як гэта ні парадаксальна, менавіта час вайны быў лепшым перыядам у кар'еры Рознера. Тады яны былі найбольш папулярнымі і цэненымі не толькі публічнасцю, але дзяржаўнымі і партыйнымі апаратчыкамі. Магчыма таму ні Рознер, ні Бяльзацкі не скарысталіся магчымасцю пакінуць савецкую зямлю разам з арміяй Уладзіслава Андэрса. Пасля таго як пачалася халодная вайна, з'явіўся лозунг «хто гуляе джаз сёння, заўтра здрадзіць бацькаўшчыну». У 1946 годзе Рознер быў абвінавачаны ў касмапалітызме і сасланы ў лагер, дзе восем гадоў узначальваў лагерны аркестр. Эдзі Рознер памёр у Берліне 26 жніўня 1976 года.

— Дакументацыя датычная джаз-аркестра захавалася, але я знайшоў толькі аднаго чалавека, які пазначыў нацыянальнасць «беларус», — сказаў Віктар Сямашка. — Гэта быў малады чалавек, саксафаніст, камсамолец, якога звалі Чараповіч. Тым не менш, я беларускую культуру трактую даволі шырока не толькі паводле генетычнага коду, таму што ўсе тыя літвакі, габрэі, польскія, беларускія... яны таксама сталі часткай беларускай культуры і без іх не адбылося б тое, што адбылося.

## Схаваная Атлантыда

Чаму гэтая ўся гісторыя з'яўляецца такой схаванай Атлантыдай?

— Я думаю, што беларускім гісторыкам, тым падкрэслена нацыянальным гісторыкам, тое, што звязанае з габрэямі, нецікавае, таму што не лічаць таго беларускім. Габрэям магчыма гэта нецікавае, таму што гэта беларускі, польскі джаз. Якая сувязь да габрэяў? — могуць сказаць. Польскім гісторыкам гэта таксама мала цікавае, за выключэннем Дарыюша Міхальскага, таму што ўся гэта гісторыя звязная з падзелам Польшчы, з саветамі і тое, што тут адбывалася, адбывалася пад крылом саветаў. Тэма неадназначная і мала хто яе кранаў.

Аматары гэтага жанру музыкі таксама былі пад уражаннем ад пачутага ў час мерапрыемства ў «Склепе з культурай».

— Перш за ўсё я люблю джаз, — сказала пасля сустрэчы Барбара Пякарская. — Пра гэтых людзей, праўду сказаўшы, я нічога раней не ведала. Тут больш месца, у якім яны стваралі, было важным, чым нацыянальнасць. Мне было цікава даведацца пра вытокі музыкі, якую я вельмі люблю слухаць.Тут патрэбны быў такі чалавек, які сам грае, сам спявае, які цікавіцца музыкай, які ведае розныя жанры музыкі. Трэба было знайсці такога чалавека, да таго ж яшчэ не з Беластока, які дакапаўся да гісторыі, якой мы самі не ведалі.

Дзяржаўны джаз-аркестр створаны ў БССР мае ў Беларусі сваіх прадаўжальнікаў.

— Цяпер сітуацыя даволі цікавая. Сёння вялікая колькасць джазавых музыкантаў, але па-ранейшаму мала аўтараў. Гэта хіба беларускага джаза, што ад заўжды мала аўтарскага матэрыялу, а ўсё пераважна стандарты, куміры, — адзначыў Віктар. — Зараз галоўнай падзеяй апошніх часін гэта стварэнне калектыву «Minsk Improvisers Orchestra» (у ёй выступае таксама Віктар Сямашка — рэд.), які займаецца імправізацыяй і яднае амаль сотню чалавек і ладзіць рэгулярныя імпрэзы ў Менску.

З верасня ў аўтарскай перадачы Віктара Сямашкі «Кракатук» можна будзе больш падрабязна даведацца пра беластоцкія пачаткі беларускага джаза. Перадача гучыць на хвалях Радыё Рацыя па серадах а 20:05. Усе перадачы таксама можна паслухаць на сайце радыё.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Кветкі — наша радасць

Альжбета Закшэўская і Гражына Кардаш марылі мець вакол сябе многа кветак кожнага дня. Яны папраўляюць дрэнны настрой сваім кветкавым пахам, радуюць вочы сваёй цудоўнай прыгажосцю. Як жа прыемна пахне кветкавы адэкалон. Кветкі — наша радасць, — кажуць яны, маладыя жанчыны і ўсміхаюцца. Так і хочацца даўжэй пабыць у іх прыгожым магазіне „Лаванда" ў Гайнаўцы па вуліцы Стэфана Баторыя. Сюды часта прыходзяць жанчыны. Хто як хто а яны любяць кветкі. Любяць, калі ім дораць кветкі мужчыны. Не толькі з нагоды дня нараджэння або імянін ці Дня жанчын. Кветкі збліжаюць людзей. Яны спадарожнічаюць нам у розныя жыццёвыя моманты.

Спадарыні Альжбета і Гражына ўжо пяты год паспяхова вядуць кветкавы магазін. Кветак у ім столькі, што выбіраць ды выбіраць. Тут і белыя, чырвоныя і жоўтыя ружы, і чырвоныя і белыя гваздзікі (яны найбольш трывалыя) і цюльпаны, і альстрамерыі. Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. Ёсць у кветніцах і без іх. У вялікіх і малых гліняных і пластмасавых пасудзінах для вазонаў, між іншым, бягоніі. Тут можна купіць гатовыя вянкі і букеты кветак з упрыгожаннем. Найбольш кветак купляюць у тыя дні, калі прыпадае Дзень жанчын, Валянцінкі, Дзень маці, Дзень настаўніка, ды пачатак або заканчэнне навучальнага года ў школе, а таксама з іншых — перш-наперш радасных нагод.

Спадарыні Альжбета і Гражына прасілі напісаць, што яны вельмі ўдзячны жанчынам, жыхаркам пасёлка Гурнэ, якія адтуль здалёк прыходзяць да іх у краму і тут купляюць кветкі.

Кветачніцы, калі ёсць такія заказы, выконваюць святочныя ўпрыгожанні мясцовых цэркваў і касцёлаў, а таксама шыкарных аўтамабіляў, на якіх маладыя пары і госці паедуць да шлюбу. Апякуюцца яны таксама магіламі на могільніках, упрыгожваюць іх кветкамі.

І на заканчэнне хачу адзначыць, што напрыканцы красавіка гэтага года ў конкурсе на найлепшы кветкавы магазін кветачніцы гайнаўскай „Лаванды" занялі першае месца ў Гайнаўскім павеце і другое ў нашым Падляшскім ваяводстве. Віншуем!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Сухастоіны ля дарог

Цяпер іх многа, між іншым, у лясах Белавежскай пушчы на тэрыторыі Белавежскай, Гайнаўскай, Нарваўскай і Нараўчанскай гмін. Ад карааедаў найбольш высокіх сухіх мёртвых елак, але і іншых дрэў — хвояў і бяроз. У пушчы сячы іх забаранілі. Зараз шмат сухастоін паабапал адрэзка ваяводскай дарогі № 687 ад Пераходаў да Скупава. Яны стаяць аголеныя з іголак і з іх падае долу галлё.

Не інакш ёсць у мешаным лесе пры павятовай асфальтавай дарозе, якая бяжыць у вёсцы Плянта паралельна да чыгункі. Тут вецер паламаў і скінуў верхавіны сухіх елак і амаль усё сухое галлё. У ветраную пагоду ехаць сюдою па дарозе асабліва небяспечна. Варта дадаць, што такая сітуацыя тут не мяняецца ад пару гадоў. **(яц)**

**PS.** На гэтую тэму мой брат Кастусь Целушэцкі напісаў верш „Ёлачка". Выбраў я з яго дзве страфы:

Голыя дрэвы рукі ўгору падымаюць,
У Бога здароўя сабе вымаляюць.
А лес як людзі, моцна хварэе,
Таму што караед грозны ў пушчы шалее.

А ў Белавежскай пушчы елкі паміраюць
І стаяць сухія, як свечкі дагараюць.
А калі так далей у лесе будзе,
На Каляды ялінкі не прынясуць людзі.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Я тут свая — мяне ўсе любяць!

У якіх галінах творчасці найбольш паспяхова праяўляюць сябе сучасныя дзеці? Падабаецца ім сцэна, эстрада, песні, скокі, турніры, гульні. У беларускім асяроддзі цэнтральнае месца займае песня. Гэтую з’яву пацвердзіў 46-ты выпуск конкурсу «Беларуская песня». Сёння напішам пра беластоцкі конкурс. Вялікім сюрпрызам было выступленне дзіцячага царкоўнага хору, які дзейнічае пры беластоцкай парафіі Усіх Святых. Дзеткі, як сказала іх апякунка матушка Аня Пятроўская, упершыню спявалі пабеларуску. Іх выступ наклікаў жаль за адміраючым жанрам, які трэба лічыць знакавым для пакаленняў беларусаў. Мова пра застольныя песні, якія абажалі нашы продкі. Яны пра каханне, сяброўства, лёс і смерць.

Гэта адначасова выклік для галасоў. Спевакам трэба заспяваць без інструментаў і голасам абудзіць змест песні, узрушыць слухачоў і заклікаць іх да супольнага спеву. Бяседныя песні спявалі ў нас пры кожнай сямейнай ці вясковай гасціне і гэта асаблівая форма камунікацыі і аздоба свята. І вось песню такога роду: *Маруся, ты Маруся, люблю я твою ўроду...* праспявалі на галасы беластоцкія дзеці. У іх хоры адчуваўся прысмак аўтэнтыкі. Магчыма, дзякуючы апякунцы, якая з сёстрамі ахвотна выконвае песні з роднай вёскі, яны будуць развівацца ў гэтым закінутым жанры...

Праўда, сучаснае жыццё больш схіляе да акадэмічных форм. Вось спадар Кірыл Ліпай, які займаецца з вучнямі ПШ № 4, падрыхтаваў з «Баламуткамі» нешта накшталт міні-оперы. Яго старэйшыя вучні, у тым ліку дачушка Дамініка, рашыліся на сольныя выступленні. Дзяўчаткі спявалі і прадстаўлялі песні з цыкла «Жывінкі з глыбінкі». Шкада толькі, што пры нагодзе выступленняў не называлі аўтараў песень і музыкі. Такі падыход толькі падмацаваў бы мараль і пачуццё нацыянальнага гонару. Згаданыя творы ўзніклі ў нашым асяроддзі, у Беластоку. Гэта важна, паколькі многія дзеці беларускасць спалучаюць з Мінскам.

Як кожны раз я з нецярплівасцю чакала выступлення Гарадка. Музычны феномен гэтай зямлі праявіўся ў народна-эстрадным калектыве «Прымакі» — гонары беларускай меншасці ў Польшчы. Лідар гурта Юрка Астапчук сам прыехаў са сваімі вучнямі. На сцэне відаць як многа значыць для іх узор і прыклад. Амелія Ланеўская, хоць наймалодшая ўзростам, выступіла як знакамітая салістка з адчуваннем сцэны. Яна рашылася праспяваць «Маміну сарочку». У гарадоцкіх спевакоў цудоўны кантакт з публікай. Нават тут, на аглядзе, яны падарвалі залу, якая дарыла ім воплескі.

Усе выступленні мелі свой настрой, засведчылі пра музычную культуру. Мне найбольш спадабаўся «Белы караблік» у выкананні сясцёр Васькоўскіх і песня «Я тут свая — мяне ўсе любяць» Наталлі Алексяюк з Тапалянаў. У кожным згаданым выступленні праявіліся талент выканаўцаў і іх настаўнікаў, чарадзейны абмен духам і вялікая праца.

*(больш падрабязна ў чарговых нумарах)*

Тэкст і фота: **Ганны КАНДРАЦЮК**


Марта і Кася Васькоўскія з татам Паўлам


Юлька Алексяюк з ПШ н-р 4


Амелія Ланеўская з Гарадка


Наталля Алексяюк з Тапалянаў


Трыю НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія


Дзіцячы царкоўны хор з беластоцкай парафіі Усіх Святых

*(Беларуская народная легенда)*

# Як чараўнік замовіў стрэльбу

Пайшлі раз хлопцы на паляванне. Хадзілі яны цэлы дзень, абышлі ледзь увесь лес, нічога не здабылі. Вяртаюцца да гасподы з пустымі торбамі. Вось, набліжаюцца ўжо да вёскі, як сустракае іх каваль Гараська. А Гараську ўсе лічылі чараўніком. Павіталіся яны, закурылі і жаляцца:

— Нейкая няўдача ў нас сёння, дзень згубілі ды нічога не ўпалявалі.

А чараўнік дакрануўся да адной стрэльбы, неяк таемна ўсміхнуўся і кажа:

— Ну, вось зараз паспрабуй!

Толькі ён гэта вымавіў, бачаць: бяжыць сабака і гоніць зайца. Смальнуў паляўнічы і вачам не верыць. Усё атрымалася нечакана, проста. Заяц толькі падскочыў і ногі выпруціў.

Не паспелі ахалонуць, як побач праляцеў цецярук. Выстраліў другі ды бачыць, певень пад ногі яму грымнуў. Здзівіліся хлопцы, а чараўнік ім кажа:

— Я магу вам замовіць так стрэльбы, што ўвесь час будзе шанцаваць на паляванні.

Ён узяў у рукі ружжо, нешта пашаптаў і загадаў першаму паляўнічаму:

— Ну, страляй у маю шапку!

Перад гэтым каваль павесіў шапку на сук і пазірае, прыжмурыўшы вочы.

Пацэліў хлапец шмат разоў у шапку, увесь порах выстраляў, а там пазнакі няма, ні адной дзіpачкі няма. Быццам і не страляў да яе. Ад гэтага ляк наляцеў, ажно цела шэрхла...

З тых часоў пачалі хлопцы здымаць перад кавалём шапку, кланяцца, каб замовамі не сапсаваў ім стрэльбы.

** Легенда запісана этнографам Сержпутоўскім у вёсцы Рожан на Случчыне ад пана Рэдкага. Сучасная апрацоўка ГК.*



Дзеці з беластоцкай «чацвёркі» з Дамінікай Ліпай у цэнтры



Гарадоцкая «Казка»

## УВАГА КОНКУРС! № 20-19

**Што гэта за загадка,
калі ўсюды гладка?
Падказка:
карыстаемся ёй у кухні)**
(П.......)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 2 чэрвеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адаз на загадку № 16: жук.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі** Юля Дарпенская, Марцін Галёнка, Оля Кардаш, Кацпэр Каліноўскі, Томэк Ваўранюк, Клаўдзія Ніканчук, Наталля Петручук. **Віншуем!**

Алівія КАЗЁЛ
Міхалова

## Настаўнікі

У мяне цікавыя настаўнікі,
Па беларускай мове
— спадарыня Эмілія,
Яна кожнаму дапаможа
і праблемы развяжа.
Па матэматыцы
— спадарыня Эля,
З ёй пра ўсё можна
пагутарыць.
Па гісторыі — спадар Пётр,
Ён проста файны,
усё тлумачыць проста.

## Польска-беларуская крыжаванка № 20-19




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 16-2019:**

Справа, міс, порт, шост, слых, матор, субота, намёк, каб, стол, лімон. Шанс, мат, паром, мо, асёл, стук, вы, лоб, шырокі, мох, там, біс, або, стан.

Узнагароды, **каляровыя алоўкі**, выйгралі **Аліўка Порац, Вікторыя Якімюк, Марта Петручук** з Нарвы. Віншуем!

# На скатах Альп

Калі глянуць на карту Швейцарыі, на яе гаспадарчыя і культурныя цэнтры, то пакажацца нам такі абаранак, пра які калісь згадваў Юзаф Пілсудскі. Менавіта ўсе тыя галоўныя гарады Швейцарыі распаложаны па яе граніцах: Цюрых, Базель, Жэнева, Лугана... А ў геаграфічным цэнтры краіны знаходзіцца па сутнасці толькі Люцэрн. І здавалася б, што менавіта гэты горад павінен быць і палітычным яе цэнтрам, сталіцай.

Было гэта ў свой час нават блізка, як шапкай кінуць. Бо ж і Люцэрн быў першым са знатных цяпер гарадоў, якія далучыліся да новафарміраванага абарончага саюза, якога мэтай была абарона перад вонкавымі правіцелямі. Заснавалі Швейцарыю тры альпійскія вясковыя кантоны Уры, Швіц і Унтэрвальдэн 1 жніўня 1291 года. Кантон Люцэрн быў чарговым — 1332 год, кантон Цюрых — 1351... Аднак, калі канчаткова фарміравалася Швейцарская Канфедэрацыя, у палове XIX стагоддзя, Люцэрн аказаўся не ў той кааліцыі, якая дала ход далейшым падзеям. Менавіта тады кантон Люцэрн стаў на чале г.зв. Зондэрбунда, саюза каталіцкіх кантонаў, мэтай якога было супрацьстаўленне лаіцызацыі федэрацыі. Зондэрбунд разлічваў на ваенную дапамогу Аўстрыі, але калі аўстрыйскі дэлегат прыехаў абмяркоўваць канкрэтныя крокі, пратэстанцкія кантоны ўспелі ўжо расправіцца з Зондэрбундам, прагнаць з краіны езуітаў, а сталіцай федэрацыі стаў Берн.

Люцэрн распаложаны на беразе Возера Чатырох Кантонаў; Вікіпедыя: „Фірвальдштэцкае возера альбо возера Люцэрн (ням.: Vierwaldstättersee, фр.: Lucerne) — возера ля падножжаў Альп у Швейцарыі. Нямецкая назва Vierwaldstättersee літаральна значыць „возера чатырох лясных краёў". Фірвальдштэцкае возера грае важную ролю ў легендах, якія атачаюць раннюю гісторыю Швейцарскай Канфедэрацыі. На лузе над яго берагам была прынесеная прадстаўнікамі лясных кантонаў клятва Рутлі, тут жа адбываліся і падзеі легенды пра Вільгельма Тэля. Размешчана на вышыні 434 м, у міжгорнай тэктанічнай упадзіне, на дне якой старажытны ледавік. Складаецца з 4 басейнаў, злучаных паміж сабой вузкімі (да 1 км) пралівамі. Даўжыня сістэмы 38 км, агульная плошча 113,8 кв. км, найбольшая глыбіня 214 м. Праз Фірвальдштэцкае возера працякае рака Ройс (прыток р. Аарэ, басейн Рэйна). Уздым узроўню летам (у сярэднім на 0,8-1,0 м), калі ў Фірвальдштэцкае возера паступаюць талыя воды альпійскіх ледавікоў".

Слоў пару і пра Вільгельма Тэля, тая ж Вікіпедыя: „Вільгельм Тэль (ням.: Wilhelm Tell; фр.: Guillaume Tell; італ.: Guglielmo Tell) — легендарны народны герой Швейцарыі, выхадзец з кантона Уры, які жыў у канцы XIII — пачатку XIV стагоддзяў, умелы лучнік, барацьбіт за незалежнасць сваёй краіны ад Аўстрыі і Свяшчэннай Рымскай імперыі. (...) Жорсткі намеснік (фогт) германскага імператара ў Швейцарыі Геслер павесіў на плошчы горада Альтдорфа на тычцы капялюш аўстрыйскага герцага і аддаў загад, каб усякі, хто праходзіць, кланяўся капелюшу. Малады селянін Тэль, вядомы як выдатны стралок, не выканаў гэты загад, і Геслер у пакаранне прымусіў яго страляць у яблык, пастаўлены на галаву сына стралка. Тэль паспяхова справіўся з задачай, але затым ён прызнаўся, што калі б патрапіў у сына, то іншай стралой забіў бы Геслера. Паводле іншай версіі, у выпадку няўдачы, Тэль забіў бы сябе другой стралой. Яго адправілі ў турму, але ён уцёк у горы. Падпільнаваў Геслера на дарозе паміж скаламі і забіў яго стралой. Храналагічна падзею гэту датуюць 1307 годам".

Асоба Вільгельма Тэля ўсяляк ушаноўваецца ў Швейцарыі. Між іншым, на Возеры Чатырох Кантонаў адным з найбольш вядомых караблёў быў параход



Гара Пілатус



Могілкі ў Люцэрне

„Вільгельм Тэль". Уступіў ён на службу ў 1908 годзе, забіраў на борт тысячу пасажыраў. У 1972 годзе завяршыў ён сваю вадаплаўную службу, а два гады пазней быў перароблены на прычалены да набярэжнай Люцэрна рэстаран, перад гасцініцай „Швейцэргоф"...

А цяпер варта вярнуцца ў сам горад Люцэрн. Адной з яго славутасцей з'яўляецца касцёл св. Леадэгара. Быў ён біскупам адной з французскіх епархій у VII стагоддзі. І, як гэта ў жыцці бывае, быў уцягнуты ў свецкае змаганне за ўладу. І ён, як у свой час горад Люцэрн, апынуўся ў кагорце прайграных. А ў Сярэднявечы быў свой рытуал паводзін з пераможанымі: біскупу Леадэгару выверцелі вочы свердлам, абрэзалі язык а пасля некалькіх гадоў і абезгаловілі. Нечым падобным страшылі нашых продкаў сотку гадоў таму царскія палітрукі, выганяючы ў бежанства. Ды і ў ліку нашых царкоўных куміраў ёсць ахвяры змагання за ўладу, напрыклад князі Барыс і Глеб. Сам касцёл св. Леадэгара пабудаваны ў XVII стагоддзі, інтэр'ер яго багаты, аднак мяне ўразілі могілкі навонкі. Там крыху традыцыйных намагільных пліт, але вельмі многа там урнаў з астанкамі размешчанымі ў сценах калумбарыяў. У Швейцарыі месца мала, яно дарагое, таму хаваць пакойнікаў прыходзіцца інакш чым у нас, ашчадней...

Над Люцэрнам высіцца некалькі адметных гор; адной з іх з'яўляецца гара Пілатус. Вікіпедыя: „Пілатус (ням.: Pilatus; фр.: Pilatus) — горны масіў у швейцарскіх Альпах, на мяжы кантонаў Обвальдэн, Нідвальдэн і Люцэрн, і яго галоўная вяршыня (2128,5 м, называецца таксама Тамлісхорн). У аснове назвы ляжыць лацінскае слова pilleatus («у лямцавым капелюшы»). Да вяршыні Пілатуса вядзе канатная дарога. Першым уздым на гару апісаў у 1555 г. Конрад Геснер". У сярэдневяковы час нехта асацыяваў назву гары з вядомым з евангелляў Понціем Пілатам. І ўзнікла легенда, што цела Пілата спачывае менавіта ў адным з азёр гэтага горнага масіву. І калі ён прабуджаецца ў Вялікую пятніцу, тады падымаецца са сваёй сырой магілы, апранаецца ў багатае аблачэнне і абмывае рукі з Ісусавай крыві. Таму сярэднявечныя ўлады Люцэрна забаранілі ўсялякіх гульняў ночцу, у тым ліку і кіданне камянямі па возеры, каб не разбудзіць пакойніка і не выклікаць буры; за гэта пагражаў сур'ёзны штраф...

У 1555 годзе палкі цюрыхскі натураліст, згаданы ўжо Конрад Геснер, атрымаў спецыяльны дазвол ад бургамістра Люцэрна, у сілу якога мог увайсці на гару Пілатус, каб там праводзіць свае прыродазнаўчыя даследаванні. Вікіпедыя: „Аўтар «Гісторыі жывёл» — энцыклапедыі таго часу. Зыходзячы ў асноўным з класіфікацыі Арыстоцеля, Геснер падрабязна апісаў жывёл у такім парадку: чацвераногія жывародныя і яйцакладныя, птушкі, рыбы і водныя жывёлы, змеі і насякомыя. У кожным томе матэрыял размешчаны ў алфавітным парадку назваў жывёл; некаторыя роднасныя формы групуюцца вакол адной тыпавой жывёлы. Праца Геснера адыграла вялікую ролю ў распаўсюдзе і сістэматызацыі заалагічных ведаў. На працягу больш за 100 гадоў яна неад-



Фігура св. Леадэгара са свердлам у руцэ

наразова перавыдавалася і перакладалася. Геснер збіраў і вывучаў таксама расліны. Выдаў сачыненні па філалогіі". Працы Конрада Геснера сталі асновай для апрацаванай Карлам Лінеем сістэматыкі раслін і жывёл.

Геснер быў заўзятым любіцелем прыроды; пісаў ён да аднаго са сваіх аднадумнікаў: „Пакуль Божае наканаванне дазволіць мне жыць, штогадова буду ўзыходзіць на адну з гор у тую менавіта пару года, калі свет раслін у поўным росквіце. Гэта пашырае круг маіх ведаў, мацуе маё цела і будзе высакародным адпачынкам для маёй душы. Якая высокая насалода, якая раскоша захапляцца нязмернымі масамі гор, стаяць над хмарамі. Гэтая захапляючая вышыня выклікае ў душы імкненне да вялікага, малітву Усемагутнаму Творцу. Толькі людзі з ляніваю душою нічым не здзіўляюцца, сядзяць дома са сваёй апатыяй, не выходзяць насалодзіцца велічным відовішчам прыроды, спяць як суркі ў сваіх закутках, не думаюць пра тое, што чалавечы род створаны дзеля таго, каб, сузіраючы гэтыя цуды, пазнаваць нешта вышэйшае, нябачнае — Боства. Іх пачуцці так прытупіліся, што яны ходзяць прыгнечаныя да зямлі, ніколі не падымаюць свайго зроку на неба і свяцілы. Няхай валяюцца яны ў гразі, думаючы аб прыбытку і нізкіх задавальненнях. Хто любіць мудрасць, той пойдзе сузіраць цялесным і духовым зрокам раскошнае відовішча гэтага свету, усходы на высокія горы, аглядаць неабсяжныя ланцугі Альп, кіраваць свае сцежкі ў цяністыя лясы, ставаць на вяршыню гары і старацца ахапіць багацце распаложаных перад ім рэчаў. Тады самацэчна паявяцца пытанні: чаму гэтая высока нагрувашчаная маса гор не апускаецца памалу ўніз, калі глеба становіцца ўсё рыхлейшай і сырэйшай сыходзячы да асноў? Чаму так высока ўзнімаюцца гэтыя вострыя вяршыні? Гэта невычэрпныя рэзервуары. У іх глыбіні ўзнікаюць крыніцы, ручаі і рэкі, арашаючыя ўсе навакольныя краіны. У іх падножжа цудоўныя азёры нашай радзімы. У іх глыбіні скрываюцца новыя скарбы. Гаючыя крыніцы становяцца асновай здароўя і жыцця тым, хто не лякаецца доступу да іх, часта складанага. Ды і духовая і пачуццёвая насалода аднолькава багатая і карысная ў гэтай горнай вандроўцы. Самі цяжкасці падарожжа, свядомасць гэтага часовага вызвалення ад жыццёвых турбот ужо вялікая карысць. Да гэтага чыстае горнае паветра, якое асвяжае і ажыўляе. І наша аблічча пасвятлее. Вакол нас расліны з іх жывымі колерамі і далікатнымі формамі. То раздаюцца цудоўныя спевы птушак, то моўкне ўсё, ахопліваючы душу свяшчэнным жахам..."

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# Музыка была ўва мне з дзяцінства

Тэкст **Юркі БУЙНЮКА**

Інтэрв'ю з **Міраславам Крыштопам** — кампазітарам, вакалістам і лідарам вядомага польскага гурта «Імпэрыюм» і беларускага праекта «Контра» («Contra») размаўляе Юрка Буйнюк.

**— Вы закончылі Музычную акадэмію імя Ф. Шапэна ў Беластоку. Як успамінаеце студэнцкія часы?**

— Я вучыўся класічнай музыцы. Найпрыгажэйшая музыка, якая можа быць, найбольш вартасная. Хаця цяжкая, таму што патрабуе вялікай падрыхтоўкі. Я меў магчымасць іграць творы самых выдатных кампазітараў. Вельмі мне падабаецца камерная музыка, ігра ў малых калектывах, напрыклад кларнет, скрыпка, віяланчэль, кантрабас. Класічная музыка прыгожая, хаця таксама люблю папулярную музыку. Гады маладосці, праведзеныя ў Музычнай акадэміі ўспамінаю вельмі добра.

**— Як дайшло да ўзнікнення групы «Імперыюм»?**

— Гэта было ў 1990 годзе. Мы заснавалі «Імперыюм», каб паехаць на музычны кантракт у Нарвегію, пайграць за добрыя грошы за мяжою. У эканамічным плане тады была вялізная прорва паміж заходнімі і посткамуністычнымі краінамі і многа польскіх гуртоў ездзіла на такія кантракты. Файна было выехаць на Захад і пайграць там у рэстаранах, на паромах. Добрыя грошы тады людзі зараблялі. Мы, яшчэ студэнты, купілі інструменты і музычную апаратуру. Пачалі мы рэпетыцыі і сталі рыхтавацца да выезду за мяжу. Але адзін чалавек кажа нам: «Пакуль выехаць за мяжу, зайграйце нам на забаве ў Юхнаўцы». Мы згадзіліся. Аказалася, што людзі вельмі файна гулялі, таму што моднай была электронная музыка. Мы мелі нетыповы састаў інструментаў — аўтаматычную перкусію, дзве пары электронных клавішаў плюс бас-гітара і саксафон. Мы ігралі прыгожа зааранжаваныя песні і гэта людзям вельмі спадабалася. Гэта была зусім іншая музыка, якую да гэтай пары прэзентавалі гурты. Атрымалі мы прапанову ізноў зайграць праз тыдзень. На другую забаву прыйшло яшчэ больш людзей. Потым мы мелі штораз больш прапаноў. Чалавек з вёскі Здрое, што ў ваколіцах Карыціна, прапанаваў нам іграць на канікулах кожную суботу і нядзелю і даў нам намнога больш грошай за выступленні, чымсьці да гэтай пары.
І так усё гэта пачалося. Былі яшчэ больш імпрэзы, ажно праваахоўныя органы занепакоіліся. Шматлюдныя мерапрыемствы патрабавалі аховы паліцыі. Да гэтай пары на вясковыя забавы не прыходзіла больш як сто чалавек, а тут 800-1000 асоб збіралася ў адным месцы. Потым з'явіўся ўласнік аптовага склада магнітафонных касет, які сказаў, што дасць грошы, каб запісаць касету з песнямі, якімі мы іграем на забавах, але на польскай мове. Мы гэта зрабілі і потым аказалася, што касеты разышліся па ўсёй Польшчы. На базарных прылаўках не толькі ў Беластоку, але і ў Варшаве, Катавіцах, Любліне, Шчэціне і так далей, усюды гучала наша касета. Мае знаёмыя, якія вучыліся ў розных гарадах Польшчы, казалі: «Я бачыў цябе на касеце. На базарах прадаюць вашы касеты і тваю музыку. Як гэта сталася? Што ты ўвогуле зрабіў?». Я быў здзіўлены, што першая касета «Імперыюм», якая называлася «Oddalenie», стала папулярнай. Выдадзена яна была ў вельмі прымітыўны спосаб — з чорна-белай вокладкай скапіраванай на прымітыўным ксераксе, перапісана на простых польскіх магнітафонах тыпу «Radmor». Так тады дзейнічалі першыя музычныя выдавецтвы, якіх было пад дзвесце. Яны вельмі ахвотна афіцыйна куплялі ад нас музычныя матэрыялы або незаконна іх капіравалі. І так кан'юнктура накручвалася і накручвалася. Такі быў пачатак групы «Імперыюм». Пазней пачалі мы з жонкай




дзейнічаць у гурце «Contra». Потым быў гурт «Cymes Kapela». Пару гадоў таму мы вярнуліся да групы «Імперыюм». Запісалі мы пару кліпаў, іграем канцэрты на польскім музычным рынку «disco polo». Іграем канцэрты па ўсёй Польшчы.

**— Маю ўвагу прыцягнула песня «Pierwsza miłość». Як яна паўстала?**

— Гэта мая кампазіцыя, а словы напісала Катажына Крыштопа, мая жонка. Аднаго дня я сеў і напісаў музыку, якая ляжала мне на сэрцы. Часам вельмі хочацца напісаць песню-хіт, але не атрымліваецца, а часам ад неахвоты раптам атрымаецца. З гэтай песняй так менавіта было. Не было асаблівай цяжкасці, каб прыдумаць мелодыю. Неяк так хутка пайшло і я быў здзіўлены, што яна стала хітом.

**— Кліп да песні «Jesteś największym mym snem» быў запісаны ў ЗША. Як успамінаеце канцэрты ў ЗША?**

— Гэта быў цудоўны час. У дзевяностыя гады музыка «disco polo» энтузіястычна ўспрымалася палякамі ў ЗША. Гэта было пакаленне людзей, якія выехалі з Польшчы за хлебам. Яны не мелі нагоды вярнуцца, бо калі б вярнуліся ў Польшчу, не маглі б другі раз паехаць у ЗША. Тады ніхто не мог атрымаць легальную візу і мець легальную працу. Усе выязджалі на турыстычныя візы на тры месяцы і заставаліся на пару гадоў. Палякі ў ЗША страшэнна тужылі па радзіме, а наша музыка выклікала ў іх патрыятычныя пачуцці. Гэта было вельмі мілае.

**— З навейшых песень гурта «Імперыюм» вельмі люблю песню «Biała kalina». Як паўстаў гэты твор?**

— Песню напісаў Вальдэмар Окштуль, трэці чалец нашага гурта. Пасля мы ўсе супольна яе ўдасканальвалі. Паўстала супольная аранжыроўка, я заспяваў галоўную мелодыю. Мела гэта быць песня, якая спасылалася б на песню «Żółte tulipany» ў жанры танцавальнай поп-музыкі. Тады папулярнасць здабыла песня гэтага жанру «Jej czarne oczy» гурта «Iwan i Delfin». Мы думалі зрабіць нешта падобнае. Цяжка сказаць, ці мы ад кагось бралі ўзор.

**— Пазней гурт «Лідар» зрабіў беларускую версію гэтай песні.**

— Часам некаторыя думаюць, што гэта беларуская песня. Аднак гэта не плагіят, мы яе напісалі. Гурт «Лідар» пераклаў песню «Biała kalina» на беларускую мову. Напісаў яе Вальдэк Окштуль з нашага гурта.

**—Як Вам працавалася з гуртом «Лідар» пры альбоме «Мая дарога ў свет»?**

— Я да некалькіх песень стварыў ім аранжыроўку.
З Міркам і Янкам Кавальскімі вельмі добра мне працавалася. Гэта вельмі файныя, адкрытыя людзі, вельмі музыкальныя. Мірэк Кавальскі адораны вельмі прыгожым голасам і вельмі таленавіты вакаліст. Даўно мы не бачыліся і нашы дарогі крыху разышліся, але вельмі добра ўспамінаю час, калі мы працавалі над альбомам «Мая дарога ў свет».

**— Ваша песня «Żółte tulipany» гэта адзін з найбольшых хітоў музыкі «disco polo» дзевяностых гадоў. Гэта кавер песні Наташы Каралёвай, а кампазітар гэтай песні — Ігар Нікалаеў. Што Вы думаеце пра рускую танцавальную музыку 1990-х гадоў, песнямі якой карысталіся польскія гурты «disco polo»?**

— Нешта прыгожае ёсць у рускай музыцы. Найбольш мне падабаецца славянская меладычнасць. Мы ўсе — славяне, адна сям'я. З боку маёй жонкі маем сям'ю ў Гродне. Калісьці ў час сямейных сустрэч мы наведвалі іх, прыходзілі суседзі, якія хацелі сустрэцца з намі. Яны за сталом вельмі прыгожа спявалі прыгожым поўным голасам свае песні. Гэта нам з жонкай вельмі падабалася. Рускія песні ахвотна спяваюць польскія гурты «disco polo». Усходняя лірыка вельмі цудоўная. У дзевяностых гадах таксама ў Расіі было адраджэнне поп-музыкі. З таго, што ведаю, раней нельга было спяваць танцавальную музыку. «Белые розы» гэта незвычайнае здарэнне і трэба шанаваць за адвагу чалавека, які яе заспяваў, бо да гэтай пары спявалі патрыятычныя песні. Танцавальная музыка не была добра ўспрынята. Яна была праявай бунту супраць накінутай камунізмам маральнасці.

**— У 1986 годзе ў СССР, калі настала перабудова, у Расіі нарадзіўся шоў-бізнес...**

— Гэта мусіла калісьці выбухнуць, таму што ў такой вялікай краіне, дзе многа музыкальных людзей, уражлівых на гукі, на паэзію, на музыку інакш быць не магло.

**— Хто напісаў песню «Takich oczu jak Ty nie ma nikt»?**

— Я аўтар музыкі, а словы напісала мая жонка. Я задаволены маёй песняй. Калісьці я сеў і стаў кампанаваць. Уключаю ў сваёй студыі мікрафон, гукавую сцежку ў камп'ютары, бяру гітару і спяваю музычныя сюжэты, якія прыходзяць мне ў галаву. Спяваю і запісваю некалькі фрагментаў. Стараюся рабіць так, каб кожны фрагмент быў іншы, але потым так атрымліваецца, што некаторыя да сябе вельмі падобныя. З гэтага выбіраю самае цікавае. У такі спосаб я выбраў сюжэт для песні «Takich oczu jak Ty nie ma nikt». У гэты час у «disco polo» вельмі многа было псеўдаэратычных тэкстаў, шмат вульгарызмаў, а гэта мне не падыходзіць. Я вельмі люблю, калі ў песнях вельмі далікатна вядзецца расказ пра жанocha-мужчынскія адносіны, у больш культурны, субтыльны спосаб.

**— Я больш люблю музыку дзевяностых гадоў. Сучаснае «disco polo» — агрэсіўнае.**

— Многа арганізатараў канцэртаў у Польшчы гаворыць, што музыка «disco polo» 1990-х гадоў найбольш вартасная. Тады музыка была больш субтыльная, меладычная і пачуццёвая. Зараз усё пайшло ў напрамку музыкі «dance» і не ўсё мне ў «disco polo» зараз падабаецца.

**— У рэпертуары групы «Імперыюм» ёсць касета ў стылі фольк з вядомымі польскімі народнымі песнямі, напрыклад «Oj, chmielu». Вы часта карысталіся фальклорнай музыкай?**

— Нам вельмі хацелася запісаць касету з народнымі песнямі ў нашых аранжыроўках. Напрыклад, песню «Opolskie dziouchy» надалей іграем на канцэртах. Пры такой музыцы людзі файна гуляюць. У 70-80-х гадах яшчэ пры камуне была праграма «Польская моладзь спявае польскія песні». Думаю, што гэта была вельмі разумная ідэя. Як не кажы, народная музыка вельмі важная. Нават музыка «disco polo», можна сказаць, крыху народная, не класічная. Гэта папулярная музыка, утылітарная, ужытковая. Яна прыгодная для танцаў, так як народная музыка, якая выходзіла з народа, якую спявалі пры рабоце, на забавах, вяселлях. Народная музыка вельмі патрэбная і пры кожнай нагодзе можна да яе звярнуцца. Варта мець гэта на ўвазе і яе шанаваць.

**— Памятаю як у 1990-х гадах гаварылі, што «disco polo» гэта фальклор канца ХХ стагоддзя.**

— І так на самой справе ёсць. Музыка народная мае іншыя сродкі выказвання. Калісьці не было электронных інструментаў, музыку не запісвалі ў студыі, народныя песні перахазвалі вусна. Нават не было нотнага запісу. Калісьці Оскар Кольберг ездзіў па Польшчы і запісваў народныя песні з усіх рэгіёнаў. Назбіраў многа песень. Можна сказаць, што «disco polo» з'яўляецца народнай музыкай.

**— Чаму ў 1999 годзе дайшло да роспуску гурта «Імперыюм»?**

— Гэта было так, што «disco polo» стала распадацца ў Польшчы. Тады многа гуртоў спыніла дзейнасць. Гэта было звязанае з масмедыямі. Не ведаю чаму тэлеканал Polsat перастаў пускаць у сваім эфіры праграмы «Disco Relax» і «Disco Polo Live». Калі няма ў масмедыях прамоцыі дык людзі так-

працяг ☞ 10

9 ☞ працяг

сама не хацелі гэтай музыкі. Канцэртаў «disco polo» стала менш і мы вярнуліся да крыніцы — пачалі іграць на вяселлях, у рэстаранах. Потым група «Імперыюм» распалася, бо не было работы. Мы перасталі дагаворвацца. Так бывае, што калі ўзнікае агульная праблема, тады людзі непатрэбна пераносяць яе на самых сябе і мы разышліся. Кожны пайшоў сваёй дарогай.

**— Але Вы вярнуліся ў 2009 годзе.**

— Так, мы вярнуліся і далей іграем. Шкада было псаваць папулярнасць, якую мы атрымалі. Мы нават не дацэньвалі гэтага калісьці, што мы — папулярная група ва ўсёй Польшчы. Трэба было гэта шанаваць, ісці далей у сваім напрамку і таму мы вярнуліся.

**— У рэпертуары групы «Імперыюм» ёсць Ваша аўтарская песня «Wirują światła». Ці Вы ведаеце, што выконвае яе ўкраінскі гурт «Довбуш» пад загалоўкам «В човни кохання». Ці ведаеце пра ўкраінскі плагіят?**

— Не ведаю. «Wirują światła» гэта мая кампазіцыя. Тэкст напісала мая жонка, а музыку я. Песня зарэгістраваная ў ZAIKS і ахоўваецца аўтарскімі законамі. З цікавасцю я паслухаў бы ўкраінскую версію маёй песні, хаця для ўкраінскага гурта не хачу рабіць праблем.

**— У 2000 годзе першы раз я Вас бачыў у праграме «Disco Relax» у групе «Contra». Як паўстаў гурт «Contra»?**

— Калі распалася група «Імперыюм», мы з жонкай заснавалі гурт «Contra». Мая жонка таксама музыкант. Яна напісала многа тэкстаў для групы «Імперыюм». На пачатку іграў з намі Мар'юш Прусінскі, потым Януш Бальчон. Запісалі мы альбом пад загалоўкам «Contra». Гэта былі песні крыху інакш зааранжаваныя чымсьці «disco polo». Гэта была крыху фольк-музыка, якую я вельмі люблю. Я вельмі ахвотна яе іграў бы, калі б было запатрабаванне. На жаль, зараз «disco polo» самае папулярнае ў Польшчы.

**— Гурт «Contra» выпусціў альбом «Саперніца» пад медыйным патранатам Радыё Рацыя. Ці гэты альбом быў папулярны?**

— Альбом быў вядомы ў нашым беластоцкім асяроддзі. Часам нехта ўспамінае гэтыя песні. Гэта былі самыя папулярныя беларускія песні, якія мы запісалі.

Было там пару рускіх песень. Я вельмі люблю такую музыку. Як музыкант я з ахвотай выконваю песні, якія найбольш мне падабаюцца, таму і паўстала касета з беларускай музыкай.

**— Хто рабіў аранжыроўкі да гэтага альбома?**

— Я зрабіў аранжыроўкі. Мы разам з жонкай запісалі гэты альбом. Мы рабілі гукавыя сцежкі: бас-гітара, акардэон, запісаў Мар'юш Прусінскі і гэта поўнасцю наш альбом.

**— Ці гэтай беларускай касеце спадарожнічалі канцэрты, беларускія фэсты, беларускія імпрэзы?**

— Крыху было беларускіх фэстаў і імпрэз, на якіх мы пабывалі, але тады я рабіў іншыя музычныя справы. Часова скрікалі мы групу «Імперыюм», хаця мы рассталіся. Здараліся дзесьці канцэрты, канцэртны тур па ЗША, дзе праз два месяцы ігралі канцэрты. Потым ізноў не было групы «Імперыюм і быў гурт «Contra».

**— У Вашай дачкі — душа артысткі. Менавіта дэбютавала яна як пісьменніца.**

— Яна напісала і выдала раман. Да гэтай пары таксама піша, хаця занялася мастацтвам. Вучыцца ў Мастацкім ліцэі ў Супраслі. Мае таксама музычны талент, але не развіваецца ў гэтым напрамку. Мы як бацькі задаволеныя, што яна артыстка.

**— Вашы дзеці займаюцца музыкай?**

— На гэты момант не. Маю таксама другую дачку, старэйшую за пісьменніцу. Яна закончыла музычную школу ў класе скрыпкі, але пакінула музыку і выехала ў Лондан. Найстарэйшы сын — інжынер будаўніцтва, працуе ў фірме ў Варшаве. Я да дзяцей не маю прэтэнзіі, што не займаюцца музыкай. Маім бацькоўскім, глыбока скрытым у сэрцы жаданнем з'яўляецца тое, каб дзеці займаліся музыкай, але як нехта не хоча дык я іх да гэтага не прымушаю. Займацца музыкай гэта вельмі далікатная і інтымная справа. Няпроста выйсці на сцэну і заспяваць перад людзьмі песню. Трэба ў сабе перамагчы няўпэўненасць. Калі ўзяць пад увагу тое, што часам можа некаму не спадабацца наша выступленне, тады мы падвяргаем сябе на вялікі боль. Не кожны мае сілу, каб рызыкаваць у гэты спосаб і часам адмаўляемся ад публічных выступленняў.

**— Адкуль узялася ў Вас зацікаўленасць музыкай? Ці ў Вашай сям'і бацькі, дзяды займаліся музыкай?**

— Так, у маёй сям'і заўсёды нехта іграў. Я нарадзіўся ў вёсцы Куніха каля Штабіна ў бок Аўгустова і там, як памятаю, амаль усе ігралі на розных інструментах. Пераважна гэта быў акардэон. Мой дзед іграў, мае бацькі спявалі. Мой прадзед іграў вельмі добра на скрыпцы. З апавяданняў людзей ведаю, што мой прадзед быў вядомым вясковым музыкантам. Музыка была ад пакаленняў у маёй сям'і. Калісьці я сам, маючы сем-восем гадоў, пачаў іграць са слыху на акардэоне і тады я ўжо ведаў, што ў будучыні буду музыкантам. Потым я навучыўся іграць на гітары, на клавішах, на саксафоне. Пакуль я пачаў вучыцца ў музычнай школе дык я ўжо ўмеў іграць на некалькіх інструментах. Музыка была ўва мне з дзяцінства.

**— Вельмі дзякую за размову**

Гутарыў **Юрка БУЙНЮК**




# http://stamliakarnia.by

Калі адкінуць крывадушны палітэс і персаналізаваць ворагаў беларускай мовы, то першым у гэтым спісе будзе стаяць цяперашні беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Ні гісторыя, ні людзі не забудуць яго словы пра тое, што „людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, не могуць нічога рабіць, акрамя як размаўляць на ёй, бо па-беларуску нельга выказаць нічога вялікага". „Беларуская мова — бедная мова. У свеце існуюць толькі дзве вялікіх мовы — руская і англійская", — сцвярджаў у далёкім ужо 1995 годзе бязэменны прэзідэнт. Праўда, улясна ён за 25 год свайго прэзідэнцтва, размаўляючы па-руску, нічога вялікага на гэтай мове так і не сказаў, а па-англійску ўвогуле ані слоўца не прамовіў.

З цягам часу многія з тых, хто размаўляе на беларускай мове, аказаліся больш карыснымі для звычайных людзей, чым той, хто выказваў у іх адрас абразлівыя словы. Адным з прыкладаў такога карыснага беларускамоўя з'яўляецца стаматалагічная лякарня ў Мінску, якая мае назву „Глорыя". Каб даведацца пра яе, варта зазірнуць на сайт лякарні, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://stamliakarnia.by**.

Як лечаць у дадзенай стаматалагічнай лякарні, аўтару не вядома, магчыма, добра, а магчыма, і не вельмі. Артыкул пра яе сайт не з'яўляецца нейкім рэкламным распаведам, бо цікавей іншае — пры ўсіх сцвярджэннях, што няма ўнармаванай беларускай лексікі па розных галінах, рэальнасць і практыка кажуць аб супрацьлеглым. Беларуская мова, нават пры грэблівым стаўленні да яе з боку першай асобы беларускай краіны, паказвае надзвычайную жывучасць. І для таго, каб яна жыла, неабавязкова патрэбны гучныя словы — варта проста рабіць сваю справу і рабіць яе па-беларуску. Магчыма таму, на дадзеным сайце не палічылі неабходным размяшчаць нейкую іншую моўную версію, і ўсё на ім па-беларуску.

„Стаматалагічнай лякарні ўжо каля 20 год — гэта вялікі шлях карпатлівай працы. За гэтыя гады створаны згуртаваны калектыў высакакласных спецыялістаў, валодаючых самымі сучаснымі метадыкамі і тэхналогіямі", — сцвярджаецца на сайце.

Фотаздымкі цэлага калектыву лякарні размешчаны як на галоўнай старонцы сайта, так і ў адпаведнай рубрыцы. Цікава, але дадзены калектыў амаль цалкам жаночы — сярод іх толькі адзін мужчына. Праўда, зубны бізнес належыць мужчыну — Францішку Жылку, але на сайце інфармацыі пра яго няма. Затое расповед аб ім напрыканцы 2017 года змясціў анлайн-часопіс меркаванняў Куку.org. „У сям'і Жылкі па жаночай лініі жонкі — ужо цэлая дынастыя стаматолагаў: доктарам была яго цешча, зараз жонка-лекар працуе загадчыцай лякарні, тут жа тэрапеўтам робіць і яго дачка", — тлумачыць сайт жаночы твар стаматалагічнага бізнесу Жылкі.

Паводле інтэрв'ю, якое даў уладальнік лякарні анлайн-часопісу, некалькі дактароў у яго размаўляюць на беларускай мове, а адміністратары — толькі па-беларуску. Сваіх супрацоўнікаў ён аддзячвае не толькі заробкам, але і медалямі. Так, тым, хто адпрацаваў больш за 10 гадоў, на 20-годдзе лякарні далі медалі з „Пагоняй" і словамі „Вольнасць. Прыстойнасць. Прафесійнасць". „Хутка будзе 25 год, як беларуская мова ў нас на ўсіх шыльдах. Гэта дзіўна, канешне, што для нацыі павінны прасоўваць гэтую мову. Быў бы цырк, калі б так сказалі немцам — у Германіі (...), або палякам. Калі ў дзяржавы няма сваёй мовы, то і не будзе краіны", — казаў Жылка ў 2017 годзе.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара



## 140 гадоў з дня нараджэння

# Янкі Серады

Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, старшыня прэзідыума Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Янка Серада нарадзіўся 13 траўня 1879 г. у вёсцы Задзьвея Навагрудскага павета (цяпер Баранавіцкі раён). Біяграфія Серады дастаткова дагэтуль не вывучана.

У 1903 годзе Янка Серада скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут. Пазней па гэтай спецыяльнасці ён напісаў шэраг прац. Вядома, што ў 1905-1906 гг. служыў у расійскім войску ў Маньчжурыі. Пазней, у 1907-1911 гг. працаваў ветэрынарам у Мінскай губерні. Адначасна выкладаў у Мар'іна-Горскай сельскагаспадарчай вучэльні. У час Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў расійскае войска, дзе, паколькі быў спецыялістам па конях, працаваў ветэрынарам.

Вядома, што ў 1917 г. Янка Серада ўжо быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады. У тым жа годзе — старшыня прэзідыума Усебеларускага кангрэса. А ў 1918 г. — адзін з айцоў БНР. Янка Серада быў абраны першым старшынёй Рады БНР. Быў сябрам Цэнтральнага камітэта Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. Пазней уваходзіў у Часовы Беларускі нацыянальны камітэт, прэзідыум Найвышэйшай Рады БНР (1919-1920).

Пазней Янка Серада працаваў у Наркамаце земляробства БССР. Навуковы супрацоўнік і загадчык бібліятэкі (1925-1927) Інстытута беларускай культуры, выкладчык Мінскага беларускага педагагічнага тэхнікума (1921-1925). Быў арганізатарам і дырэктарам Мінскага ветэрынарна-заатэхнічнага тэхнікума (1923-1924), дацэнтам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горы-Горках (з ліпеня 1925 г. па снежань 1929 г.). З 1927 г. працаваў навуковым супрацоўнікам Беларускага нацыянальнага даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. Публікаваўся Серада з 1914 г. (часопіс „Саха"). Выступаў у друку з навуковымі, навукова-папулярнымі і публіцыстычнымі артыкуламі на сельскагаспадарчыя тэмы.

У час сталінскіх рэпрэсій Янку Сераду 4 ліпеня 1930 г. арыштавала ДПУ БССР па сфабрыкаванай справе „Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 г. высланы ў расейскі горад Яраслаўль тэрмінам на пяць гадоў. Паўторны прысуд абвешчаны 27 снежня 1941 г. Паводле яго Сераду засудзілі да 10 гадоў пазбаўлення волі ў савецкім канцлагеры. Было аформлена „датэрміновае вызваленне" 19 лістапада 1943 г. з Краслага (Краснаярскі край). Далейшы лёс Янкі Серады невядомы. Асноўных версій дзве. Першая тычыцца гэтак званай „разгрузкі" савецкіх лагераў ад небяспечных вязняў. Паводле другой версіі, выказанай даследчыкам Ігарам Мельнікавым, Сераду ў ліку тысяч іншых лагернікаў з вайсковым вопытам маглі прымусова залічыць у штрафныя аддзелы савецкага войска, што масава ствараліся ў тыя гады праз востры недахоп жаўнераў. Факт, што сваю сям'ю ён больш не сустрэў, а гэта даказвае, што Другую сусветную вайну ён не перажыў.

У час так званай перабудовы па першым прыгаворы Серада рэабілітаваны 10.07.1988 г., па другім — 16.01.1989 г. Памяць пра Янку Сераду ў Беларусі не ўшанаваная ніяк. Яго жонка, Ксенія Серада, пражыла ў Мінску да 73 гадоў і памерла ў 1963 годзе, на яе магіле на Усходніх могілках стаіць помнік. На гэтым месцы пад іншым прозвішчам — Мікалай Байцоў пахаваны і сын Серады.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Аб чаромхаўскай культуры (9)

У Апацы-Вялікай на канец 2018 года пражывала дваццаць чалавек, у пераважнай большасці пенсіянернага ўзросту. Яшчэ шэсць гадоў таму ў сяле пражывала дваццаць сем чалавек. Адно дзіця вучылася ў пачатковай школе ў Чаромсе. Адна асоба была беспрацоўнай. У шасцідзясятыя гады пражывала ў Апацы каля двухсот чалавек. І хоць у сяле, апрача чатырохкласнай пачатковай школы не было ніякай культурнай установы і электратоку, бурліла жыццё, а жыхары прагна гарнуліся да культуры. Усё адмянілася з прыездам новага настаўніка. Жорж Панько, бо аб ім тут гаворка, пачаў настаўнічаць у Апацы з 1 верасня 1962 года. І хоць маладому інтэлігенту хапала службовых і сямейных абавязкаў, уцягнуўся ў вір грамадскай дзейнасці. Быў ініцыятарам стварэння мастацкага калектыву. Моладзь ахвотна падтрымала ідэю. На пачатку паставілі дзве беларускія п'есы — «Мікітаў лапаць» і «Чорт і баба». Апрача таго ў праграме былі беларускія вершы і гумарэскі. Першы выступ паспяхова прайшоў у Апацы пры канцы года, затым самадзейнікі падаліся ў суседнія сёлы. У студзені і лютым наведалі Кузаву і Дабрываду, пасля Арэшкава. І ў кожнай мясціне публіка пасля выступу авацыйна абдароўвала самадзейнікаў бурнымі воплескамі. Гэта давала самадзейнікам штуршок для далейшай працы на культурнай ніве. У зімовыя вечары апацкая моладзь займалася чытаннем рамана «У Палескай глушы» Якуба Коласа і паэмы «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча. На супольнае чытанне прыходзіла некалькі дзясятак чалавек рознага ўзросту. У чарговай праграме былі пастаноўкі «Дзесяць гектараў» і «Пашыліся ў дурні». У час цывілізацыйнага прагрэсу многае ў Апацы перамянілася. Вёску электрыфікавалі. Дзякуючы еўрасаюзным праектам у сяле пабудавалі і мадэрнізавалі святліцу. 21 верасня 2013 года ў дзень прыхадскога свята Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, званага таксама Прачыстай, адбылося яе пасвячэнне. Удзельнічаў я ў святкаваннях. Было шумна і людна, як у шасцідзясятыя гады, калі ў сяле квітнела культурная дзейнасць і людзям жылося хоць бядней, але весялей.

Не ў адным сяле Чаромхаўскай гміны бурліла культурная дзейнасць. Прыгадваецца мне выступ у кузаўскай святліцы самадзейнікаў з Пілік. Было гэта, як не памыляюся, пры канцы пяцідзясятых гадоў, ці ў пачатках шасцідзясятых мінулага стагоддзя. 19 студзеня, на Вадохрышча, адзначаю свой дзень нараджэння. І каб зрабіць сюрпрыз членам маладзёжнага гуртка, рашыў я запрасіць мастацкі калектыў з Пілік Бельскага павета. Выступ у мясцовай святліцы пачаўся ў 19 гадзін. Публікі са свайго сяла і наваколля прыйшло нашмат больш, чым падрыхтавана было сядзячых месцаў. Калектыў прывітаў публіку мазурам — польскім народным танцам. А пасля група мандалiністаў пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага іграла эстрадныя мелодыі. У перамешку выконваліся песні. Гучнымі апладысментамі публіка абдарыла Любу Ганін за выкананне песні аб сінявокай Люцынцы. Дуэт Ірэны Бах і Лены Фалькевіч сваімі чароўнымі галасамі заваражыў кузаўскіх кавалераў «Лясной песняй». Наадварот, піліцкія донжуаны Коля Сідорскі, Пеця Макацэвіч і Павел Жукоўскі пакарылі сэрца кузаўскіх дзяўчат. Варта адзначыць, што праграму па-майстэрску вяла Настуся Дабжынеўская, а да танца падыгрывалі музыканты Пятро Нявінскі ды Здзіслаў Кавальчык. Да поўначы гулялі супольна піліцкія госці з мясцовай моладдзю. А калі прыйшоў час развітання, Коля Сідорскі сказаў: «Не сумуйце, неўзабаве зноў спаткаемся». Затым я запрасіў піліцкіх сяброў дадому, каб у сяброўскай кампаніі прадоўжыць свой дзень нараджэння. Развіталіся мы над раніцай, а самы прыемны ўспамін захаваўся ў маёй памяці па сённяшні дзень.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

Сяргей ЧЫГРЫН

## Віктару Шведу

*Прысвячэнне без ніякай нагоды*

Увесь Беласточчыны свет –
Беларускай, бясконцай і шчодрай
Беласточчыны след –
Віктар Швед.
Ад Дняпра і да роднага Мора,
Ён жыццёвыя зведаў сцежкі.
Ён адолеў і страты, і гора,
І, як сонца, свяцілі усмешкі,
І дарога вяла да Мора.
І пісаліся вершы учора,
І пяро не спыняецца сёння.
Бо паэт не бывае хворым,
А працуе заўсёды натхнёна.
Родны схоў асвятляе у вершах,
Пра Зубровію піша і прыстань…
Беларускасцю самай найлепшай
Самай добрай і самаю чыстай
Ён асветлены і асвечаны,
З самай раніцы і да вечара,
Як вялікіх князёў партрэт –
Піша вершы нам Віктар Швед.
Шлях яму асвятляе вясёлка,
Асвятляе да нашых людзей.
Ён упэўнена, шчыра і звонка
Да сваіх землякоў ідзе.
І гайдае натхненне ціша,
І натхняецца вершамі ён…
Хай жыве наш паэт і хай піша
Біяграфію светлых дзён!

1 ☞ працяг

# Свята царкоўнай музыкі

ца сярод прыхадскіх гарадскіх выканаўцаў заняў хор Прыхода святых Кірылы і Мяфодзія ў Ваўкавыску. Другое месца ў катэгорыі іншых хароў журы прызначыла вакальнаму калектыву «Свірэль» з Мінска.

— Праз царкоўны спеў мы набліжаемся да Бога. Рыхтуючыся да фестывалю, стараемся паказаць віртуознасць царкоўнага спеву, — сказалі харысткі з Беларусі.

Падчас выступаў харыстаў канферанс вёў протаіерэй Павел Стэрлінгаў. Умела распавядаў ён пра хары і іх праграму. За ходам мерапрыемства наглядала кіраўнік Арганізацыйнага бюро фестывалю Іаанна Кірылюк. Арганізатары фестывалю — Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» і Гайнаўскі дом культуры — прапанавалі паслухаць царкоўны спеў у выкананні фестывальных удзельнікаў у час асобных канцэртаў у розных мясцовасцях Беласточчыны, у Варшаве, Кракаве і Ласіцах. Цікавымі былі таксама выступы фестывальных хароў і калектываў з народнай музыкай розных краін, якія традыцыйна прайшлі ва ўрочышчы Ягелонскае каля Белавежы ў рамках пленэрнага канцэрта «Фальклорнае гасцяванне». Гайнаўскі фестываль, які быў наладжаны дзякуючы дапамозе шматлікіх спонсараў, суправаджалі таксама выставы, між іншым, мастацкіх прац інспіраваных царкоўнай музыкай і фотавыстава «Настальгія па крыжах» Гжэгажа Петрашка і Ежы Вуйціка. Гала-канцэрты, якія завяршылі фестываль, адбыліся 11 мая ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і ў Сафійскай царкве ў Беластоку.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

# Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

**1.** дакор, абвінавачанне, **2.** александрыйскі тэолаг, пачынальнік арыянізму, **3.** перыядычнае друкаванае выданне інфармацыйнага характару, **4.** суседка Швецыі, **5.** лясны кабан, **6.** мінская рака, у якой... міг, **7.** суседка Даніі, **8.** скураны абутак з высокімі халявамі, **9.** сумесная дзейнасць, супрацоўніцтва у... кудзелі, **10.** валакністая частка лёну для пражы на калаўротку, **11.** маці Каіна, **12.** сын Дэдала, **13.** важнейшы за капітана, **14.** левы прыток верхняй Прыпяці.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.




У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Пратэст, Рагнеда, базар, клець, бюджэт, Ленін, абед, вада, лязо, зямляк, акіян, мачта, юань, гора, гара, ля, даярка, Люблін, Кебіч, Індыя, зяць, таз, змей, пяць, бочка, рэгбі, змена, Гобі, Прыпяць.

Рашэнне: **Тэлебачанне дазваляе людзям, якія не маюць чаго рабіць, аглядаць людзей, якія нічога не робяць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

# 19.05 — 25.05

**(22.03. — 20.04.)** Выберыся ў краму па больш выгадную мэблю або разглянься за большым жытлом. Мяшанка розных пачуццяў, таксама і нейкай немачы. Адчуванне, што змагаешся з нябачным ворагам, а можаш быць ім і сам ты. Ды аграмадная моц, якую накіруй на спорт, патрабуючы дакладнасці і засяроджання, мастацтва. Канструктыўна разгружай стрэс. Карысны час на новыя знаёмствы; справішся з фінансамі.

**(21.04. — 21.05.)** Разбудзяцца твае мастацкія таленты. Сустрэчы, на якіх пазнаёмішся з цікавымі людзьмі і прымеш удзел у цікавых падзеях. Магчымасці на кар'еру ў канкурэнцыі. Зоркі спрыяюць фінансам. Шанц на новыя надта ўзрушаючыя знаёмствы. Нявінныя кантакты ці старое сяброўства могуць нечакана змяніцца ў каханне! Ды шмат што будзе цябе даводзіць да злосці; прытушы агрэсію і гнеў, каб гэтага не адхварэць. Схадзі да зубнога лекара.

**(22.05. — 22.06.)** Схадзі на медкантроль і вышлі на яго сямейнікаў. Шмат нагод для інтэлектуальнага і духоўнага развою. Вернецца згубленае натхненне. Шукай кампаніі маладых, энергічных, беспраблемных асоб. Ваганні настрою ад кавы і алкаголю. Настрой някепскі. Наведай хворага калегу — ён уцешыцца і хутчэй вернецца да здароўя. Народжаныя ў ІІ дэкадзе лепш няхай не ўблытваюцца ў раман з кімсьці занятым.

**(22.06. — 23.07.)** Горача ў спальні і ў іншых месцах. Вабнасць, спакушальнасць, багатае кампанейскае жыццё. 20-26.05. свае геніяльныя задумы ажыццявіш у рэальнасці. Не падвядуць цябе твая другая палова і сябры. Можаш пазнаёміцца з кімсьці адухоўленым, але і стоячым моцна на зямлі. На працы хтосьці схоча даказаць, што ў сапраўднасці „пацягвае за шнуркі".

**(24.07. — 23.08.)** 20-22.05. даведаешся рэчаў, з якіх хутка можна зрабіць карыснае. Хочаш зарабіць? Назірай за біржай! Рэгенерацыйныя здольнасці, жарснасць, а нават заўзятасць. Не занядбаеш сваёй прафесійнай пазіцыі і сяброў. Да 23.05. можа прытрапіцца крызіс у фінансах, не бяры пазык.

**(24.08. — 23.09.)** 19.05. гарачая поўня; можаш закончыць важны праект. Пасля 21.05. шукай прапаноў курсаў, асабліва моўных; магчымыя службовыя паездкі. Вялікія здольнасці прадбачвання; будзеш ведаць, у якім напрамку падацца. Твая фантазія і інтуіцыя падкажуць табе развязкі, якія могуць іншых кінуць на калені! Пі многа вады, зёлкавых заварак, еж зеляніну. Зрабі тэст на нетalerантнасць на прадукты харчавання.

**(24.09. — 23.10.)** 19-20.05. іграй **fair** у любоўных адносінах. Парабі парадкі на працы, з прафесійнай руціны вырве цябе прапанова абучэння звязанага з паездкай. Калі зменіш працу, добра падрыхтуйся да сустрэчы з новым калектывам. Магчымае падступства рэчаў. Захочацца зашалець, перажыць фантастычную прыгоду. Многія справы закончацца паспяхова. Да 21.05. не спадзявайся шмат па абяцанках. Хтосьці верне табе грошы. Не спажывай нясвежых харчоў.

**(24.10. — 22.11.)** 19.05. можаш трапіць на экстранагоду. 19.05. можаш добра адбіцца за знявагу; папраў свой выгляд. Не мусіш трымацца за кашалёк, зрабі сабе экстрапакупку. Урэшце выкараскаешся з напружання. Хатнія праблемы гэта твая спецыяльнасць. Можаш не справіцца з тэрмінамі. Разлічвай на здаровы розум. Ці ведаеш, колькі пустых калорый мае алкаголь? Скарпіён з ІІ дэкады — вельмі дбай аб ныркі і мачавы пузыр; пагражае табе заражэнне, асабліва калі ты жанчына.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш цярплівы, цвярозы ў думках. Пашырацца твае гарызонты. Твае мары здзейсняцца, толькі трымайся свайго шляху. Лепш цяпер не бяры пазык, асабліва на шыкоўныя пакупкі. Не прапусціш нагод да рамантычных і жарсных сустрэч. На нямогласці памогуць бабуліны рэцэпты. Дадавай да страў карыцу, куркуму, імбір.

**(23.12. — 20.01.)** 19-20.05. можаш атрымаць добра платны падзаработак. Твае магчымасці пашырацца. Будзеш дамаўляцца з прыгожымі і нябеднымі. Паслядоўнасць, разумовая дысцыпліна. Не крытыкуй на працы. Калі хочаш зарабіць, лепш пакінь некарысныя праекты. Не пераборшч са спортам і не перацані сваіх магчымасцей.

**(21.01. — 19.02.)** 20-26.05. пакажуцца табе новыя магчымасці і палёгка ў выхадзе па-за ўласныя абмежаванні. Магчымыя падарожжы. 19-20.05. рэалізуй свае творчыя пасіі, з іх можна някепска жыць. Матэрыяльна няблага, але не хваліся. Не слухай парад незычлівых людзей. Выкарыстай кожны шанц, поспех прыйдзе быццам мімаходам. Не адмаўляйся ад шпацыраў, нават калі пакрапвае дождж.

**(20.02. — 21.03.)** 19.05. ідэальнае паразуменне з палавінкай. Бярыся нават за цяжкія справы — пойдуць цалкам лёгка і проста. 21-25.05. можаш папхнуць уперад усе найважнейшыя справы. Не падвядзе цябе інтуіцыя, якая падкажа табе найбольш адпаведную развязку. Рыба з пералому ІІ і ІІІ дэкады няхай не паддасца кепскім звычкам. Змяніце стыль жыцця і харчаванне — паправіцца ваша вага, стан скуры і валасоў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Сіцылія — краіна кактусаў і здагадак (ч.5)



Пасля прылёту сябра на прывітанне спытаў: — А як сіцылійскія хлопцы?

У яго пытанні не было нездаровай цікаўнасці і прыкольных намёкаў. Ён звычайна загаварыў беларуска-падляшскім кодам. На экзотыку ў нас усё глядзяць праз прыгожасць жаночага роду. Раней, калі які кавалер выпраўляўся ў далёкі свет, яму жадалі прывезці з сабой прыгожую і багатую жонку. Зараз, калі ў падарожжы хлынулі дзеўкі і пенсіянеркі, дзеля карэктнасці сталі пытаць і пра брыдкі пол. Усё дзеля таго, каб па сваіх мерках ацаніць тую экзотыку, дастроіць яе да сваіх спадзяванняў і патрэб...

І вось допыты пра сіцылійскіх хлапцоў зусім скаламуцілі мае мазгі. Усё з-за ўніфікацыі, якая запанавала ў гэтым італьянскім рэгіёне. Галоўная вуліца ў Катаніі на першы погляд не адрознівалася ад падобных артэрый Беластока ці Берасця. Такія ж самыя апранахі, смартфоны, прычоскі, вузкія штаны, манікюр на гібрыдных ногцях. Усё гэта прамаўляла як глабальны камуфляж, у якім губляліся абрысы рэальнага свету, з яго козырамі і заганамі. Нават заснежаны конус пагрозлівай Этны, які затыкаў панараму галоўнай вуліцы, здаваўся макетам, збудаваным на патрэбы фільма ці нейкай мегапастаноўкі. Пры тым усе тут здаваліся быць гледачамі, спажыўцамі або абслугай, што дапаўняла ўсцешны рытуал геданізму.

У гэтай салодкай павуціне не хапала месца для прыгожага ці брыдкага полу, бо ўсе тут здаваліся прыгожымі і шчаслівымі.

* * *

Катанію з-за разбудаванага гандлю, прамысловасці і навукі часта называюць Міланам Поўдня. Энергія двухсоттысячнага горада засяроджана пры галоўнай вуліцы *Via Etnea*. Тут, апрача магазінаў сусветных марак, разбудавана сетка вулічных бараў з фастфудамі. Пры тым у якасці фастфудаў за невялікія грошы дастанеш здаровую порцыю морапрадуктаў, піцу, смачную макарону з сіцылійскай пшаніцы, ці аранчыні. Менавіта аранчыні лічаць самым старажытным фастфудам. Сваім кшталтам напамінае гусінае яйка, абсыпанае звонку перцам, змолатымі арэхамі або зёлкамі. Папраўдзе гэта вараны рыс з мясной, рыбнай ці шпінатавай начынкай, абсмажаны ў аліве. Гарачае «яйка» падаюць проста ў руку і першыя хвіліны трэба яго перакідаць з рукі ў руку, як гарачы вугалёк. Пры каштаванні аранчыні мне прыгадаліся галушкі з таўканіцы, якія проста з печы совалі ў рукі. Гэтыя звычайныя пончыкі з варанай, тоўчанай бульбы са шкваркамі і цыбулькай, якіх запякалі як булкі ў печы аж зарумяніцца і стане хрупкай скарынка. Галушкі, як і сіцылійскія аранчыні, гатавалі, каб перабіць вялікі голад. У Катаніі, старажытным порце, закладзеным грэкамі ўжо ў сёмым стагоддзі да.н.э., фастфуд аранчыні спачатку падавалі ў тавернах, дзе праседжвалі згаладалыя маракі.

Іншая страва, якую я пакаштавала на *Via Etnea*, таксама напамінала знаёмы смак дзяцінства. А дзіва, бо мова пра слаўнае фруцці-ды-марэ смажанае са свежых мініяцюрных васьміногаў, кальмараў, малюскаў ды нейкіх мініяцюрных рыбак. Яны напаміналі смак уюнкоў, якіх лавілі ў вадаёмах кошыкам з лазы. Іх цэлымі кідалі на патэльню і з нездаровай цікаўнасцю назіралі працэс гатавання. Уюнкі, пра што кажа іх назоў, яшчэ доўгі час віліся на распаленай патэльні, ды пасля, у час яды «калолі» ў зубы сваёй гумаванай структурай. Магчыма, іх падабенства са свежым фруцці-ды-марэ заключалася ў гумаванай структуры мяса. І можа яшчэ ў паху, у якім прабіваліся ноты вадзяных раслін.





Адкрыццё падабенстваў не пайшло ў смак, яно канчаткова вывеяла захапленне для ўсякіх фруцці-ды-марэ. На шчасце, марскі далікатэс каштаваў тут грашакі.

* * *

Але як кажуць, для шчасця і жыццёвага задавальнення неабходнае пачуццё раўнавагі. На Сіцыліі я нанова палюбіла макарону. Самай смачнай падалася мне макарона са смажаным баклажанам, таматным соўсам і сырнай пасыпкай. Нахітрая страва «паста норма» найбольш папулярная сярод італьянцаў. Сіцылія лічыцца айчынай спагеці. Для гэтага паспрыяў від пшаніцы, багаты ў глютэн: *triticum durum*, якую першапачаткова вырошчвалі толькі на востраве. Вынаходства, як многа іншых кулінарных навінак, з'явілася разам з арабскай каланізацыяй XI-XII стагоддзяў. Каб цеста хутчэй засыхала з усіх старон, яго фармавалі ў тоненькія шматкі і даўжэзныя ніткі. Іх можна было захоўваць два-тры гады і перавозіць на караблях. Ужо ў XII стагоддзі сіцылійцы масава выраблялі макарону і прадавалі яе ў Паўночную Афрыку, Еўропу а таксама ў недалёкую Калабрыю. Прадукт не псаваўся ў час далёкіх, марскіх падарожжаў. Хоць спагеці хутка распаўсюдзілася ў свеце, яшчэ праз стагоддзі яе называлі *maccaroni siciliani*, а саміх жыхароў празывалі макароншчыкамі. Як не цікава, нават у Італіі спажыванне спагеці абяцала прысмак экзотыкі. Першапачаткова спагеці спажывалі рукамі, доўгую локшыну хапалі за адзін канец у жменю і асцярожна спускалі яе ў рот. Так, паводле старажытных крыніц, харчаваліся людзі вуліцы і згаладалыя маракі, якія ўвесь свой заробак раней утапілі ў тавернах і забягалаўках...

Катанская *Via Etnea* са сваімі барамі з фастфудамі прамаўляла як працяг згаданых «галодных» гісторый. Усё аднак працавала дзеля дэкору і пачуцця роўнасці. У падобных месцах выседжвалі адно студэнты, эмігранты-чорнарабочыя і турысты, якія падарожнічалі невялікім коштам...

У нядзелю вечарам адкрыўся зусім іншы вобраз горада. На галоўную вуліцу выйшлі гараджане на рытуальную прагулку. Іх заможнасць праяўлялася ў дбайным, густоўным выглядзе, каштоўным адзенні і біжутэрыі. Праўда, у гэтай прыгожай, задбанай грамадзе, цяжка было выглядзець шматдзетныя сем'і (карцінку шматдзетнай сям'і, якая едзе на возе, часта прадстаўлялі на магнітах на лядоўню для турыстаў). Часцей за ўсё з мамай і татам шпацыравалі вычасаныя сабакі і каты.

Пышная жывёла, усякай масці і пароды, нагадвала салодкіх пестуноў-адзіночак.

А з хлопцамі зусім не шанцавала! Толькі раз на суседняе крэсла ў метро прысеў дзядзька з падстрыжаным вусікам і прычоскай прылізанай гелем. Ад яго на ўвесь вагон несла парфумай і памадай. Здавалася, ён толькі што выскачыў з кадру, дзе здымалі фільм пра сіцылійскую мафію. Хоць, калі меркаваць па пажылым узросце модніка, ён нікім не прыкідваўся, астаўся верным модзе з маладых гадоў.

Сучасная мафія, як кажуць эксперты, не мае выгляду і паху, ды як агню пазбягае стэрэатыпаў.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960